PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 39 (2263) Год XLIV Беласток 26 верасня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Езяранскі знайшоў ворага

Яўген МІРАНОВІЧ

У верасні г.г. адзначалася шасцідзесятая гадавіна пачатку II сусветнай вайны і ўваходу Чырвонай Арміі ў межы II Рэчы Паспалітай. Адным з каментатараў гэтых падзей, якіх запрасіла I праграма Польскага радыё, быў былы дырэктар польскай секцыі Вольнай Еўропы Ян Новак-Езяранскі. Шмат гаварыў ён пра мінулую і сучасную палітычную сітуацыю Польшчы. Сёння — паводле яго слоў — Польшча бяспечная, з'яўляецца членам НАТО, саюзнікам магутнай Амерыкі. Езяранскі хваліў амерыканскую дэмакратыю і рашучасць у пашыранні яе ўва ўсім свеце, чаго доказам была — як акрэсліў — абарона правоў чалавека ў Сербіі. Польшча, як член НАТО, можа адчуваць сябе пераможцам у гэтай вайне. Забыўся толькі дадаць, што ў выніку пашырання амерыканскай дэмакратыі сербская правінцыя Косава асталася амаль без сербаў і цыганоў. Тых, якія не паспелі ўцячы, забілі албанскія саюзнікі НАТО. Прэзідэнт Кваснеўскі і ўся польская палітычная эліта можа сапраўды ганарыцца вялікай, не толькі ваеннай, але таксама маральнай перамогай. Зразумела, што ўсё разглядаецца выключна ў катэгорыях маральнасці натаўскіх генералаў. Этнічныя чысткі ў Косаве ўжо сапраўды спынены — асталася там толькі адна нацыя.

Вернемся, аднак, да Езяранскага; гаварыў ён далей, што польскай арміі, каб магла выконваць сваю місію ў НАТО патрэбнае сучаснае ўзбраенне. Зразумела, найлепшае яно ў заакіянскага саюзніка. Але навошта — спыталі журналісты — Польшчы патрэбныя дарагія самалёты, танкі, калі Польшча бяспечная і не мае ворагаў? Нямеччына з'яўляецца саюзнікам, Расія мае такія свае ўнутраныя клопаты, што не можа з імі справіцца — аргументавалі. Тады супраць каму купленыя ў Амерыцы самалёты і танкі? — пыталі. Езяранскі адказаў: трэба быць гатовым на сітуацыю, калі б, напрыклад, Лукашэнка пачаў этнічныя чысткі. Без ніякіх прадпасылак амерыканскі грамадзянін пачынае гаварыць пра этнічныя чысткі ў Беларусі. Шмат дрэннага можна сказаць пра Лукашэнку, але пра планаваную ім этнічную разню можа гаварыць толькі ідыёт альбо правакатар. Езяранскі не ідыёт, таму да яго асобы падыходзіць другі варыянт.

Нядобры гэта знак, калі ў польскіх сродках масавай інфармацыі, без ніякай прычыны гаворыцца пра планаваныя этнічныя чысткі ў Беларусі. Вядома, такім чынам даецца зразумець, што пад пагрозай апынуліся гродзенскія палякі. Невядома, аднак, чаму Езяранскі падбухторвае і цынічна выклікае анты-

[працяг ☞ 3]



Будынак Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы.

## Праграмнай рэвалюцыі не будзе

**Размова з Яўгенам САЧКО, дырэктарам Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы.**

***— Ад 1 верасня 1999 года Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання пераўтварыўся ў Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы. Што абазначае гэтая змена?***

— Агульнаадукацыйны ліцэй з гімназіяй ствараюць комплекс школ, а запіс „з дадатковай мовай навучання" адлюстроўвае статус беларускай мовы. Хаця вучоба беларускай мове ў гімназіі і ліцэі абавязковая, то вядзецца як дадатковы прадмет тры гадзіны ў тыдні ў гімназіі і чатыры гадзіны ў ліцэі. У новым статуце школы знаходзіцца запіс, што настаўнікі некаторых прадметаў будуць магчы поўнасцю або часткова весці заняткі на беларускай мове.

***— У гэтым годзе створаны два аддзелы першага класа гімназіі. Ці адкрыццё гімназіі патрабавала многіх арганізацыйных зменаў?***

— Наш будынак разлічаны на 16 аддзелаў, а зараз у нас іх 21. Каб працаваць на адну змену, трэба было прыстасаваць для дыдактычных мэт тры дадатковыя залы. Арганізацыйнай працы таксама было многа. Рада настаўнікаў спачатку агульную колькасць гадзін навукі падзяліла на паасобныя прадметы, а пасля на тры гады навучання. Беларускай мове ўказ Міністэрства нацыянальнай адукацыі адводзіць тры гадзіны ў тыдні. Падрыхтавалі мы таксама праграмы навучання для паасобных прадметаў, апрацавалі прынцыпы ацэнкі вучняў і школьную сістэму выхавання.

***— У працы ліцэя было прадугледжана азнаямленне вучняў з роднай культурай, гісторыяй і традыцыяй не толькі ў час заняткаў беларускай мовы. Ці такія магчымасці створаць таксама праграмы навучання ў гімназіі?***

— Гэта нават і абавязак настаўнікаў, каб элементы беларускай культуры, традыцыі ці гісторыі выкарыстаць на ўроках кожнага прадмета. Напрыклад, на ўроку англійскай мовы, калі настаўнік знаёміць вучняў з назвамі гарадоў, гаворыць пра беларускія гарады. Апрача традыцыйных прадметаў выдзялілі мы дзве гадзіны ў тыдні на рэгіянальную адукацыю. Плануем арганізаваць сустрэчы з пісьменнікамі, гісторыкамі, наладжваць экскурсіі ў цікавыя месцы нашага рэгіёна. Будзем таксама знаёміць з іншымі культурамі. На практыцы нашу культуру прапагандуем таксама ў час школьных мерапрыемстваў.

***— Школьная рэформа ўводзіць праграмныя змяненні. На падставе якіх праграм і падручнікаў будзе весціся навучанне беларускай мове ў ліцэі і гімназіі?***

— Вялікай праграмнай рэвалюцыі ў ліцэі яшчэ не будзе. У праграме навучання беларускай мове ў гэтым годзе таксама мала памяняецца. Канкрэтныя змены адбудуцца з прыходам у ліцэй сёлетніх гімназістаў. Цяпер камісіямі пры Міністэрстве нацыянальнай адукацыі распрацоўваюцца стандарты патрабаванняў да экзаменаў на атэстат сталасці па мовах нацыянальных меншасцей на 2002 год. Наша настаўніца Вольга Сянкевіч канчае распрацоўваць новыя праграмы навучання па беларускай мове для трохгадовага ліцэя. Для гімназіі аўтарскую праграму па беларускай мове распрацавала настаўніца Аліна Якімюк. У яе аснову леглі пра-

[працяг ☞ 8]

## Пуп Зямлі — у Гацьках

У Гацькі да Морданяў, у іх нарэшце ўласную хатку, сабралася я толькі праз год, гэтым летам. Дамовіліся на 1 жніўня. Сапраўды хатку няцяжка было знайсці між нумарамі „31" і „35", бо нумара на ёй усё яшчэ не было. Янка сваімі рукамі заканчваў аднаўляць гэты падмуршэлы ўжо дом, з якога маладыя павыязджалі ў гарады, а старыя гаспадары памерлі.

[рэпартаж ☞ 3]

## Фэст у Гарадку

На сцэну выйшаў „Расспяваны Гарадок", жаночы хор пад мастацкім кіраўніцтвам Сцяпана Копы. Ужо звыш 45 гадоў гэты папулярны калектыў расслаўляе беларускую народную песню не толькі на Беласточчыне. Хор успрымаўся публікай надзвычай цёпла. Слухачам падабалася галасістая салістка Марыя Врублеўская.

[мерапрыемства ☞ 8]

## А было гэта...

Галоўныя сілы Чырвонай Арміі пачалі ісці 22 верасня. Ішлі ў поўным парадку, без якіх-небудзь эксцэсаў. Нават польскія падпольшчыкі паведамлялі свой эміграцыйны ўрад у Парыжы, што „stosunek wojskowych sowieckich do ludności polskiej — poprawny". Гэта пасля, калі прыехалі ды абасноўваліся энкавэдысты і пачалі сваю непахвальную і неразумную дзейнасць, становішча пачало мяняцца.

[погляд на мінулае ☞ 9]

## Барыс і Алёша

Паехаў я ў Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі. Прымаў мяне там не адзін чалавек. А адзін маёр кажа: „Как Москва скажет, мы так и делаем". Калі яны мне абяцалі, што брата рэпатрыруюць на радзіму, значыць, у Мінску афармяць дакументы, і ніякіх засцярог не будзе. Але яшчэ трэба ехаць у Гродна... Абышлі мы з Алёшам усе ўстановы і там. Пасля яму прыслалі інфармацыю, каб нанава падаў прашэнне...

[рэпатрыяцыя ☞ 10]

## Клопаты з аптэкай

У сярэдзіне лета на арлянскай аптэцы зноў павіс замок, а яе ўладальнік падаў у газеты аб'яву аб продажы будынка з пляцам. Жыхары Орлі, сярод якіх перавагу складаюць пенсіянеры, гэтую вестку ўспрынялі з трывогай ды абінавацілі ўлады ў халатнасці. А пацыенты амбулаторыі вымушаны цяпер ездзіць за лякарствамі ў Бельск.

[болей ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## У Беларусі можа з'явіцца попыт на „буржуйкі"

Галоўны аргумент прыхільнікаў аб'яднання Беларусі з Расіяй: „Белоруссия не может прожить без российской нефти", здаецца, спраўдзіўся — на самай справе ўжо не можа. Калі краіны, якія калісьці былі прывязаны да Расіі абавязковымі закупкамі нафты на ўсходзе, шукалі іншыя шляхі набыцця гэтай сыравіны, Аляксандр Лукашэнка яшчэ мацней уводзіў Беларусь ў паліўную залежнасць ад Масквы. Пры гэтым народу расказваліся байкі пра „танную расійскую нафту ў выпадку больш шчыльнай інтэграцыі".

У другой палове года бензін знік у некаторых рэгіёнах самой Расіі. Там, дзе ён ёсць, значна павялічыліся кошты за паліва. Тлумачыцца гэта тым, што ўзраслі сусветныя цэны на нафту. Расійскім канцэрнам выгадней прадаваць паліва за мяжу па агульных цэнах, чым па зніжаных сваім суайчыннікам, тым больш беларусам. З пачатку 1999 года расійская нафта для Беларусі падаражэла больш чым у два разы. Нягледзячы на „братэрства", расіяне патрабуюць аплату ў доларах, якіх у беларускіх уладаў няма.

У выніку пастаўкі паліва ў Беларусь рэзка скараціліся. Аўтамабілісты пачынаюць дзень з пошукаў бензіну (часта безвыніковых). Больш-менш рэальна заправіцца за валюту, але не кожнаму гэта па кішэні.

Але перад беларусамі можа паўстаць праблема значна большая за адсутнасць бензіну. Большасць цяплоўняў краіны працуюць на мазуце. Напрыклад, на апошнім пасяджэнні Брэсцкага аблвыканкама, у якім прымаў удзел прэм'ерміністр Беларусі Сяргей Лінг, было паведомлена, што ў вобласці мазуту на зіму забяспечана ў два разы менш, чым у мінулым годзе. Наўрад у іншых месцах краіны сітуацыя значна лепшая. А да ацяпляльнага сезона засталося зусім мала часу.

Мільёны беларусаў жывуць у дамах з цэнтральным водазабеспячэннем і ацяпленнем. Да маразоў мясцовым уладам трэба знайсці выйсце са складўшайся сітуацыі з палівам. Пакуль яны вырашылі эканоміць. Напрыклад, у Гродне раптоўна пачалі адбывацца „аварыі" на цепласетках. Перыядычна той ці іншы раён астаецца без гарачай вады. А што рабіць? Калі абяцаная „танная" расійская нафта не пацячэ ў Беларусь або дзяржава не знойдзе чым заплаціць Расіі за „нармальную", зімой у вокнах беларускіх шматпавярхоўцаў могуць з'явіцца трубы ад „буржуек".

**Зміцер Кісель**

## Бітва з зямлёю прайграная

Нягледзячы на шматлікія прэзідэнцкія селектарныя нарады, якія з вясны перыядычна транслюваліся па тэлебачанню і радыё, на запэўніванні дзяржаўных СМІ ў паспяховай працы калгаснікаў, вынікі „бітвы за ўраджай" у Беларусі катастрафічныя. Беларусы вясной-летам наступнага года могуць застацца без хлеба, калі ўрад не знойдзе валюты на закуп збожжа за мяжой.

У мінулым годзе ў Беларусі было сабрана 4,8 мільёнаў тон збожжа. Па звестках неафіцыйных СМІ, гэта лічба задаволіла патрэбы краіны ў хлебе і фуражы толькі напалову. Вясной Аляксандр Лукашэнка патрабаваў ад сваіх падначаленых забяспечыць ураджай збожа ў памеры не менш чым 6,8 мільёнаў тон. Беларускае тэлебачанне не раз паказвала, як кіраўнік „вертыкалі" лётае на сваім верталёце па розных раёнах Беларусі і вучыць калгаснікаў, як павысіць ураджай. Аднак беларуская зямля не падпарадкавалася ўказам Лукашэнкі.

30 жніўня на аператыўнай нарадзе „вертыкалі", якая прайшла пад старшынствам прэм'ер-міністра Сяргея Лінга, было афіцыйна заяўлена, што сёлетні ўраджай значна меншы за планаваны. Калгаснікі здолелі сабраць толькі 3,7 мільёнаў тон збожжа. У сярэднім з аднага гектара сабрана 17,3 цэнтнера. Як гэта звычайна робіцца яшчэ з савецкіх часоў, прычынай паражэння ў „бітве за ўраджай" улады называюць неспрыяльнае надвор'е.

За тыдзень да вышэйзгаданай нарады адбылася сустрэча Сяргея Лінга і Аляксандра Лукашэнкі, на якой было вырашана шукаць магчымасці закупкі збожжа за мяжой. Такім чынам перад урадам паўстала нялёгкае пытанне, бо валюты ў дзяржавы няма. А зерня трэба будзе купляць шмат. Як паведамляе газета „Звязда", нават на Гродзеншчыне, дзе збожжа сабрана найбольш (сярэдні паказчык 24,2 цэнтнера з гектара) неабходна будзе купляць 650 тысяч тон фуражнага зерня і 30 тысяч тон харчовай пшаніцы.

(зк)

## Першыя наступствы неўраджаю

Гэта стала поўнай нечаканасцю. У Беларусі, якая ўпарта працягвае будаваць рынкавы сацыялізм, з паліц крамаў можа знікнуць усё, што заўгодна. Але ніхто не думаў, што нельга будзе купіць гарэлку. Чаго чаго, а гэтага прадукту заўсёды хапала. Зараз ён з'яўляецца ў продажы вельмі рэдка і расхопліваецца імгненна. Спачатку знікненне гарэлкі людзі звязвалі з магчымым падаражаннем. На самай справе яно адбылося і бутэлька „белай" зараз каштуе 300-340 тысяч рублёў. Аднак новы кошт не змяніў сітуацыю — гарэлкі ў крамах так і няма. Афіцыйнага тлумачэння чаму так здарылася дзяржаўныя чыноўнікі не даюць. Па адной з існуючых версій у Беларусі проста не хапае якаснага зерня, якое неабходнае для вырабу гарэлкі. Як вядома, сёлета дзяржаўныя планы на ўраджай поўнасцю правалілся і прыйдзецца закупіць мільёны тон збожжа за мяжой. Таму перад урадам стаіць пытанне: што даць беларусам — гарэлку ці хлеб?

(зк)

## Лукашэнка выкарыстоўвае момант

Выбухі ў расійскіх гарадах адгукнуліся ў Беларусі нечаканым рэхам. З 12 верасня беларуская міліцыя працуе ва ўзмоцненым рэжыме. Звяртаецца асаблівая ўвага на надзейнасць аховы складоў са зброяй. Узмоцнены пашпартны рэжым. А 15 верасня праваахоўныя органы правялі рэйд па склепах мінскіх дамоў. Нічога нагадваючага выбуховыя прыстасаванні, праўда, не знайшлі, але „шорах" сярод мінчукоў навялі. З першага погляду здавалася б, што беларускія ўлады пачалі баяцца расійскіх праблемаў, не паспеўшы аб'яднацца з Расіяй.

Адна сапраўдная прычына дзеянняў праваахоўчых органаў высветлілася 16 верасня. У гэты дзень Аляксандр Лукашэнка склікаў нараду з кіраўнікамі ўсіх сілавых структур краіны. Ён заявіў, што сітуацыя ў рэспубліцы напружаная (раней Лукашэнка з нагоды і без яе казаў пра стабільную, спакойную сітуацыю ў рэспубліцы, як галоўны вынік яго кіравання). У суседняй Польшчы акцыі пратэсту і забастоўкі ідуць адна за адной (таго і глядзі, каб „галодныя" палякі не рынуліся праз мяжу ў „сытую" Беларусь — аўт.). Чамусьці Лукашэнка ўспомніў і пра Украіну. Але ён не лічыць, што сапраўдная небяспека зыходзіць з-за мяжы. Галоўнае — унутраная апазіцыя, якая спрабуе дэстабілізаваць абстаноўку ў краіне.

Лукашэнка загадаў забараніць усе несанкцыянаваныя сходы рабочых на прадпрыемствах, закрыць газеты, якія „паклёпнічаюць" на кіраўнікоў дзяржавы. Ён прыгразіў жорстка расправіцца з міліцэйскім кіраўніцтвам, калі апазіцыя здолее правесці несанкцыянаваныя акцыі. Мітынгі можна праводзіць толькі ў месцах акрэсленых уладай (напрыклад, у Гродне, гэта невялічкі стадыён за горадам). „Пусть там митингуют сколько влезет опозиция и прочее отребье", лічыць Лукашэнка.

Нягледзячы на складаную эканамічную сітуацыю ў краіне, сілавыя структуры будуць значна ўзмоцнены. Да патрулявання вуліц, разам з міліцыяй, будуць прыцягнуты ўнутраныя войскі. На думку Лукашэнкі бяспека, гэта галоўная задача на сённяшні дзень. Ураджай, паліва, фінансы — адыходзяць на другі план.

**Зміцер Кісель**

## Адпачынак як форма пратэсту

З пачатку верасня апусцелі беларускія базары. Прыватныя гандляры масава пайшлі ў адпачынак. Гэта была рэакцыя на ўвядзенне ў дзеянне ўказа Аляксандра Лукашэнкі № 14.

Згодна з указам прадпрымальнікі павінны мець сертыфікат на ўсе свае тавары. Тэарэтычна гэта выглядае правільна. Але практычна такое патрабаванне невыканальнае, бо на невялікія партыі тавараў сертыфікаты ніхто рабіць не будзе. А згодна з дэкрэтам № 14 несертыфікаваны тавар канфіскоўваецца. Таму прыватныя гандляры былі вымушаны спыніць працу. Адзінае, што яны маглі рабіць — гэта ўзяць адпачынак. Беларускія прадпрымальнікі ўжо некаторы час плацілі штомесячны фіксаваны падатак. У прынцыпе дзяржаву не цікавіць ці працуе прадпрымальнік ці не — падатак ён заплаціць абавязаны. Толькі афоміўшы дакументы на адпачынак, некаторы час прадпрымальнік можа не аддаваць грошы дзяржаве.

Акцыя пратэсту рынкавых гандляроў ахапіла амаль усю Беларусь. Як сцвярджаюць лідэры прадпрымальніцкіх прафсаюзаў, спынілі працу больш 70 працэнтаў прадпрымальнікаў. Гандлююць толькі тыя, хто спецыялізуецца ў продажы прадуктаў харчавання. Улады пакуль ніяк на гэта не адрэагавалі, хаця ж спробы адгаварыць прадпрымальнікаў ад масавага адыходу ў адпачынак з боку адміністрацыі рынкаў і падатковай інспекцыі былі. Нічога дзіўнага! Гэтыя дзяржаўныя службы засталіся без працы, няма каго штрафаваць і няма з каго збіраць грошы за гандлёвае месца і г.д.

Самымі актыўнымі абаронцамі сваіх правоў з'яўляюцца гарадзенскія прадпрымальнікі. Так яны правялі 14 верасня сход, на якім вырашылі не скарацца і заклікалі сваіх калегаў з іншых гарадоў, якія ўжо пачалі вагацца, працягваць акцыю пратэсту.

(зк)

## У Мінску „поўны камплект" замежных паслоў

Прайшло ўжо больш года пасля „драздоўскага" скандалу з рэзідэнцыямі дыпламатычных місій заходніх дзяржаў. Тады, пасля гвалтоўнага высялення з арандаваных памяшканняў, паслы пакінулі Беларусь. Аднак пасступова ўсе яны вярнуліся. Непахісным заставаўся толькі пасол ЗША Дэйвід Спекхард. І вось 14 верасня ён, разам з жонкай і трымя дзяцьмі, прыляцеў у Мінск. З аэрапорта яны паехалі ў сваё новае месца жыхарства — вілу ў Раўбічах пад Мінскам. Трэба адзначыць, што ЗША пакуль не дачакаліся кампенсацыі беларускім бокам стратаў, якія панесла гэтая краіна ў сувязі з мінулагоднім высяленнем сям'і Спекхардаў з Драздоў. У заяве прэс-сакратара Дзярждэпартамента ЗША Джэймса Рубіна, што была прынята з нагоды прыезду амерыканскага пасла ў Беларусь, гаворыцца: „Вяртанне пасла Спекхарда стала магчымым дзякуючы паспяховым перамовам, у выніку якіх беларускі бок прадставіў новыя гарантыі таго, што ім будуць выконвацца ўсе абавязацельствы ў адпаведнасці з Венскай канвенцыяй, а таксама, што ім будзе праведзена кампенсацыя стратаў, якія панёс амерыканскі бок у выніку такіх дзеянняў улад Беларусі".

Магчыма, адной з прычын вяртання пасла ЗША ў Беларусь сталі планаваныя перамовы паміж апазіцыяй і ўладай. Джэймс Рубін называе падзеі, якія зараз адбываюцца ў Беларусі ў сувязі з гэтым „важным адрэзкам часу". „Знаходжанне пасла Спекхарда ў Мінску дазволіць нам больш эфектыўна садзейнічаць станаўленню дэмакратыі і правоў чалавека, аказаць падтрымку тым, чыя дзейнасць скіраваная на аднаўленне дэмакратычнага кіравання, і развіваць нашыя агульныя інтарэсы", — лічыць прэс-сакратар Дзярждэпартамента ЗША.

(зк)

# Пуп Зямлі — у Гацьках



Восенню мінулага года ў Орлі зачапіў мяне Янка Мордань:

— Скажыце вашай унучцы, што пуп Зямлі ні ў якіх ні ў Дэльфах, як гэта яна пісала ў „Зорцы". Пуп Зямлі — у Гацьках! Там мы цяпер жывем, нумар трыццаць тры. Прыязджайце! Праўда, нумара на хатцы яшчэ няма, але шукайце так між трыццаць першым і трыццаць пятым, знойдзеце.

У Гацькі да Морданяў, у іх нарэшце ўласную хатку, сабралася я толькі праз год, гэтым летам. Дамовіліся на 1 жніўня. Сапраўды хатку няцяжка было знайсці між нумарамі „31" і „35", бо нумара на ёй усё яшчэ не было. Янка сваімі рукамі заканчваў аднаўляць гэты падмуршэлы ўжо дом, з якога маладыя павыязджалі ў гарады, а старыя гаспадары памерлі. Хатка, пакуль яе не купілі Янка і Ёля, была адно косцю нязгоды нашчадкаў. А ў Морданяў цяпер вялікая радасць: нарэшце ў сябе!

Янка сам зрабіў ашалёўку хаты. Сваімі рукамі і з Мішам Пашковым, дадае ён. Засталіся дзве сцяны, вуглы causeздобіць, шчыты... Цёгаў я, рэзаў, абрубліваў тыя дрэвы, што трыццаць чатыры гады таму разам з бацькамі і братам садзіў (ну, усадзіў сасонку, як малышам бацькі далі). Пяцьдзесят сасонак мо за дзень пасадзілі. У гэтым лесе каля маёй вёскі Хітрай, што пад Гайнаўкай, я і грыбы збіраў. Маслюкоў там было... Гэты лес і цяпер мой, я яго ўласнік, шкада, што зладзеі шмат лесу пакралі...

* * *

Ужо мяне ў Гацьках не спадзяваліся, бо прыехала я толькі пад вечар. Людзі сказалі: мусі сёння да вас ніхто не прыедзе. Бо так то і па некалькі асоб прыязджае, кажа мне Ёля. Найбольш шахматысты з наваколля: Барыслаў Рудкоўскі, Валянцін Гушч, бізнесмен. Алесь Палескі часам прыязджае, калісь прывёз нейкіх амерыканцаў, вадзіў іх на замчышча.

Частуюся духмяным пірагом, спечаным гаспадыняй, запіваю кавай. Шкада, што ў хаце няма ўсіх дзяцей. Старэйшыя — Міхась і Ганна — паехалі з бабуляй у Дубяжын, там пераначуюць, а назаўтра, на Іллю, Міхась у Падбеллі будзе прыслугоўваць самаму мітрапаліту Саву. У хаце застаўся з бацькамі толькі няўрымслівы чатырохгадовы Петрусёк, чароўны хлапчучок. Адна бяда з ім, наракае Янка, — упіраецца, не хоча гаварыць па-беларуску. Са старэйшымі такіх праблем не было. Міхась сёлета пачынае навуку ў беларускай гімназіі пры бельскай „тройцы", а Ганна — у другім класе рыбалаўскай школы.

У Рыбалах ужо больш дзесяці гадоў працуе настаўніцай іхняя мама. Сёлета яна, выпускніца рускай філалогіі ў Беластоку, навучае дзяцей беларускай, рускай і польскай мовам. Дзяцей мала, сотні напэўна няма, перажывае яна.

А тата іх — па пасведчанні мае матуру і спецыяльнасць тэхнік-геадэзіст (пяць гадоў таму зрабіў курсы кацельшчыка цэнтральнага ацяплення і мае яшчэ шмат незакончанага). У душы ён аднак — паэт і акцёр. Ну, і наогул неспакойны дух. Пяць гадоў вёў маладзёжную сцэнічную групу „Парнас" у Бельску, потым — чатыры гады тэатральную групу „Балаган", пяць гадоў кіраваў драматычным калектывам у Паўлах, ездзіў па Беласточчыне з тэатрам „Жывое слова" з Мінска. Працаваў нейкі час у „Ніве", у Беларускім таварыстве.

У даны момант яго статус: беспрацоўны без права на засілак і без шанцаў на працу. Чакае сезона, калі трэба будзе паліць у цэнтральным ацяпленні. У мінулым годзе паліў у Бельску ў Камэндзе паліцыі, невядома, ці прымуць сёлета.

У кастрычніку мінулага года Янку Морданя выбралі радным Бельскай гміны. Я гавару шчырую праўду, сцвярджае ён. А ў палітыцы трэба быць хітрым, слізкім, ведаць, калі што сказаць, як што выкарыстаць. Я свядомы ўсё ж, што праўда — раней ці пазней — выйдзе наверх.

Ёля, калі муж выходзіць на двор, смялей гаворыць тое, што пры ім, магчыма, не сказала б. Ведаеце, гэта прыемныя дзівацтвы. Ваня ніколі не ашукаў. Любіць, каб яго пахвалілі. Во ў хляве парадак зрабіў — кліча, каб я глядзела. Думаю, што ён такі самы, калі працуе як радны. Мо раней яго ўсе ведалі, ён пісаў, бываў сярод людзей, выступаў на сцэне, быў слаўны, асабіста знаўся з пісьменнікамі і паэтамі, а цяпер... Сям'я — самое дарагое.

А ці не перашкаджае ёй буйнае жыццё Вані ў мінулым? Не! Нават і не падумала. Людзі яму вераць. Я калісь вяду заняткі ў школе, а тут захварэла маё дзіця. Пытаю ў дырэктаркі, ці можа муж мяне заступіць. Яна згадзілася, нягледзячы на тое, што ён быў апрануты як кацельшчык (тады займаўся цэнтральным ацяпленнем у школе). Янка ўмеў вучыць дзяцей беларускай мове, ідэальна рабіў канспекты. Пасля заняткаў ставіў з дзецьмі „Пінскую шляхту" і рыхтаваў іх да конкурсаў. Сапраўды ён патрапіць гэта рабіць.

Янка, пачуўшы словы жонкі, сарамліва апускае вочы, але відаць, што гэта яму падабаецца. Рыхтую я Тамаша Андраюка, кажа, які іграў суддзю ў „Пінскай шляхце", а ён нясмела прамямліў: „Устаць!" Я кажу: які ж з цябе суддзя? Калі так ціха будзеш гаварыць, дык ніхто тваёй ролі нават не заўважыць. Ну, і на цэнтральным аглядзе ў Кляшчэлях ён выйшаў на сцэну і голасна крыкнуў: „Устаць!" Зззаду ўсе на яго вокліч усталі, а камісія сядзела. Тады Тамаш яшчэ гучней, яшчэ больш патрабавальна: „Уу-стаць!" І што вы думаеце, камісія (Янка Сычэўскі, Валя Ласкевіч, Мікола Гайдук, Тамара Русачык) устала. Во гэта была ігра!

* * *

У Гацькі Мордані пераехалі з Рыбалаў два гады таму, калі купілі там хату. Калі мы толькі пазнаёміліся, я цягнуў жонку на вёску, успамінае Янка. А яна, ураджэнка Бельска, ужо неяк баялася вёскі, хаця ўсё жыццё была цесна звязана з Храбаламі, бо адтуль паходзіла яе маці.

А цяпер Ёля свядома слухае, як у маічэрвені спяваюць салаўі. Летам дубаносы ў нас сядаюць на яблыні, дзяўбуць зялёныя вішні і выплёўваюць. Зімой дзеці назіралі, як попаўзень (сівы дзятлік) адабраў саланіну ў сінічак, яны ж палахлівыя. Мы з малым Пецем падглядалі, як буслы на суседнім слупе будавалі гняздо.

Маркоціць сэрца цяжкая хвароба бацькі. Янка хоча завесці мяне ў яго пакойчык і паказаць адтуль Гай, але Ёля спахмурнела. І я не хачу муціць спакой хворага чалавека.

Ідзем на агарод. Ён пад самым Гаем. Гай — гэта рэчка і месца з дрэвамі. Рэчачка маленькая, прыток Арлянкі. У гэтай ваколіцы на 37 гектарах мае быць зона археалагічнай аховы і геалагічна-прыродны комплекс.

Глянце, капусту я сам садзіў, кажа мне Янка. Моркву то ўжо жонка даглядае, Алесь Палескі яе вельмі любіць, то садзім яе больш. А тут у нас усё: пятрушка, цыбуля, гарбузы, фасоля, а найбольш бульбы. Сланечнікі растуць ля хаты.

Янка вядзе мяне ў немалую цяпліцу, дзе пануе цудоўны пах свежых памідораў, частуе мяне. Ёсць і жоўтыя.

Але ж не абышлося б без „замка". Гэта рытуал. Ужо пачынае цямнець, а мы едзем за вёску. Здалёк аглядаем вялікую гару.

Людзі пасяліліся тут у V стагоддзі да нашай эры. На працягу 17 стагоддзяў (аж да XII ст.) гарэў тут вечны агонь і былі ямы з запасамі збожжа (грэчкі, проса). На гары знаходзіліся вогнішча, студня і ямы са збожжам. Ля гары жылі людзі. Гара, якую называлі „Замак", была месцам культу. У 60-х гадах Ян Ясканіс распачаў тут раскопкі.

Янка Мордань расказвае мне пра ўсё гэта, трымаючы на руках соннага малога, і ў яго голасе я чую радасць, што жывуць яны ў такім месцы. Я тут — як у Бога за пазухай! Прырода вакол мяне. Свой дом, жонка, дзеці...

І сапраўды, падумала я, пуп Зямлі ні ў якіх ні ў Дэльфах, як напісала мая ўнучка. Пуп Зямлі — у Гацьках.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Па вучня — двума аўтобусамі

**Раніцай 1 верасня праз Тыневічы ехалі побач сябе: школьны аўтобус з Чыжоў і войт Нарвы на сваёй прыватнай машыне. Пільнаваў ён, каб дырэктар Пачатковай школы ў Кленіках не выйшаў з аўтобуса і не праводзіў сярод бацькоў агітацыі.**

Дзеці з Вялікіх і Малых Тыневіч, Лапухоўкі, Істока і Радзькоў маюць рэдка спатыканы камфорт — могуць выбраць адзін з двух школьных аўтобусаў, якія наперагонкі ходзяць праз іхнія вёскі. Адзін з Чыжоў, збірае тых, хто хоча вучыцца ў Кленіках, а другі — з Нарвы, возіць ахвотных у тамашнюю школу.

Пералічаныя вёскі ў Нарваўскай гміне. Але іх школьны раён быў у Кленіках, што ў Чыжоўскай гміне. Першы канфлікт за дзяцей узнік у 1993 годзе, калі змяніўся спосаб датацыі школьніцтва, а менавіта грошы ішлі не агульна на гміну, а за канкрэтным дзіцём. І гміна Нарва ўпамянулася за сваіх дзяцей. Бацькі з Тыневіч, аднак, сказалі войту Яну Тапалянскаму: не. Адной з прычын быў псіхалагічны бар'ер. У Кленіках такое самае беларускае вясковае асяроддзе, а ў маламестачковым нарваўскім, хоць і яно большасцю беларускае, усе стараюцца гаварыць па-польску. Яшчэ нашых дзяцей за тое, што яны гавораць па-свойму,аднагодкі біць будуць, — казалі тады тыневіцкія бацькі. І справу адтэрмінавалі на неканкрэтную будучыню, мауляў, калі зачыняць іншыя школы ў гміне: ласінскую, крывецкую ды трасцяніцкую, тады пабачым.

Сёлета так і сталася, у Нарваўскай гміне былі зачынены школы ў Трасцяніцы і Крыўцы. Засталіся пачатковыя школы ў Нарве і Ласінцы і была створана гімназія ў Нарве. Тамашні войт Якуб Садоўскі зноў вярнуўся да ідэі, каб дзеці з Тыневічаў вучыліся ў Нарве. І так вёскі Нарваўскай гміны: Гародчына, Козлікі і Ляхі пасылаюць дзяцей у Кленікі, бо ім проста туды бліжэй і зручней. На гэта дзве суседнія гміны пагадзіліся. А наконт Тыневічаў і навакольных меншых вёсак няма згоды.

Няма адной думкі і сярод бацькоў. Частка рашылася на Нарву, а іншыя пажадалі заставацца пры Кленіках. На сённяшні дзень нарваўскі аўтобус забірае дванаццаць дзетак, а чыжоўскі — дзевятнаццаць.

Здавалася б, за толькі дзяцей няма чаго змагацца. Асабліва ў Нарве, дзе ў пачатковай школе і гімназіі вучыцца больш за 400 асоб. Іншая справа ў Кленіках. Там у пачатковай школе толькі 63 вучняў і, калі б не было дзяцей з Тыневічаў, школу давялося б — не сёлета, дык у наступным годзе — зачыняць. Не дапамог бы нават клас чыжоўскай гімназіі, які адчынілі ў Кленіках.

* * *

Калі я, васемнаццаць гадоў таму, канчаў Пачатковую школу ў Кленіках, было там каля 250 вучняў. З пятага класа былі па два паралельныя. Нас тады, выпускнікоў восьмых „а" і „b" класаў было больш за сорак.

**Мікола Ваўранюк**

# Езяранскі знайшоў ворага

[1 ☞ працяг]

беларускую істэрыку. Ён, як ніхто іншы, ведае як арганізуюцца этнічныя чысткі і як ствараецца атмасфера для агрэсіі. Прыклад Югаславіі паказвае таксама, як прапаганда можа ахвяру ўчыніць агрэсарам, а агрэсара, напрыклад, абаронцам правоў чалавека. Заўсёды былі і ёсць палітыкі, гатовыя паўтараць найбольш нахабную хлусню, заўсёды былі і ёсць журналісты гатовыя тысячы раз паўтараць і распаўсюджваць гэтую хлусню, пакуль у агульным перакананні не стане яна прызнаная чыстай праўдай. Хто мае грошы, можа купляць сабе такую праўду, якая яму акурат патрэбная.

**Яўген Міраловіч**

# Форум няўрадавых ініцыятыў

4-5 верасня ў Варшаве адбыўся II Агульнапольскі форум няўрадавых ініцыятыў. Некалькі сотняў прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый з усёй Польшчы сабраліся разам, каб падзяліцца досведам, абмеркаваць свае праблемы ды разам пашукаць шляхоў да іх вырашэння. На сёння ў саракамільённай Польшчы дзейнічае каля 20 тысяч няўрадавых арганізацый, якія гуртуюць вакол сябе 2-3 мільёны актывістаў і каля 200 тысяч супрацоўнікаў. Больш за 90% гэтых арганізацый узнікла ў апошнім дзесяцігоддзі і ахопліваюць у сваёй дзейнасці ўсе магчымыя грамадска-сацыяльныя накірункі. Гэта і адукацыя, і здароўе, і мастацтва, і правы чалавека, і ахова навакольнага асяроддзя, і спорт, і рэгіянальнае развіццё, і шмат чаго іншага.

На думку ўдзельнікаў Форуму, польскае заканадаўства сёння мала спрыяе развіццю філантропіі ў грамадстве. Актывісты трэцяга сектара разам плануюць распрацаваць магчымасці больш шчыльнага супрацоўніцтва з дзяржавай. Нядзельная акцыя-кірмаш на варшаўскім Новым Свеце мела на мэце прыцягненне ўвагі да дзейнасці няўрадавых арганізацый з боку палітычных ды мясцовых улад, бізнесменаў, прэсы. Можна было атрымаць інфармацыйныя буклеты, фірмовыя кашулі, паслухаць музыку, узяць удзел у аўкцыёне, а таксама... спаткаць беларусаў.

Тыдзень таму Фонд Стэфана Баторыя ды Інстытут на карысць дэмакратыі ва Усходняй Еўропе IDEE запрасілі ў Польшчу прадстаўнікоў больш чым дваццаці няўрадавых арганізацый з Беларусі. Беларускія госці мелі магчымасць на працягу тыдня сустракацца са сваімі польскімі калегамі ў розных гарадах Польшчы, а напрыканцы свайго візіту ўзялі ўдзел у Форуме няўрадавых ініцыятыў у Варшаве.

— На працягу тыдня мы зведалі вельмі шмат, — сказала Наталля Асмалоўская з грамадска-культурнай арганізацыі „Плошча" з Пінска. — Былі ва Вроцлаве, Нідзіцы, Коніне, у Лукаве, а заканчваем сваё падарожжа тут, у Варшаве. Гэта дало вялікі плён, шматлікія кантакты, цікавыя знаёмствы. Я думаю, усё гэта будзе развівацца, будуць і супольныя праекты. Ва ўсіх гэтых гарадах мы сустракаліся з прадстаўнікамі недзяржаўных арганізацый Польшчы, а таксама з гарадскімі ўладамі. Спадзяюся, што цяпер нам будзе прасцей наладзіць кантакты з польскімі ўладамі самакіравання ў гмінах. Ёсць шмат цікавых задумаў, можа, нават дашлем сваіх людзей вучыцца дэмакратыі ў Польшчу.

— Вельмі спадабалася тое, як людзі актыўна супрацоўнічаюць, — сказаў сакратар грамадскага аб'яднання „Воля да развіцця" са Слоніма Максім Масіеенка, — тая ініцыятыва, якую яны пры гэтым праяўляюць. У гэтай актыўнасці польскага грамадства я бачу выраз волі да нармальнага жыцця. У нас таксама шмат людзей, якія хочуць нармальна жыць і мы здольныя дзейнічаць у грамадскіх арганізацыях.

Развіццё дэмакратыі сапраўды вельмі шчыльна звязана з грамадскай актыўнасцю людзей. Чалавек пачуваецца мацнейшым і пачынае верыць у свае сілы, калі яму ўдаецца зрабіць самому хаця б нейкую дробязь. І хаця польскі трэці сектар мае шмат праблемаў, Беларусі такі размах грамадскай актыўнасці яшчэ і не сніўся, таму прыезд у Польшчу прадстаўнікоў больш за 20 грамадскіх арганізацый з розных рэгіёнаў Беларусі мае велізарнае значэнне.

— Галоўным арганізатарам зяўляецца Фонд Стэфана Баторыя, — сказаў каардынатар беларускай праграмы ў Інстытуце на карысць развіцця дэмакратыі ва Усходняй Еўропе Павел Казанэцкі. — Але паколькі мы ўжо некалькі гадоў супрацоўнічаем з Форумам Сярэдне-Усходняй Еўропы, які працуе пры фондзе Баторыя, то мы супольна дапамагалі арганізоўваць гэтую паездку. Група беларусаў — гэта прадстаўнікі грамадскіх арганізацый практычна з усёй Беларусі. Асноўнай мэтай было паказаць дзейнасць польскага трэцяга сектара, паказаць напрамкі дзейнасці польскіх няўрадавых арганізацый. Уся група мела магчымасць аб'ехаць розныя гарады Польшчы, пабачыць дзейнасць гуманітарных, адукацыйных, асветніцкіх арганізацый, якія вядуць працу са школамі. Напрыканцы паездкі, карыстаючыся нагодай, што ў Варшаве ў той жа час адбываўся Форум няўрадавых ініцыятыў, мы паказалі прадстаўнікам беларускіх арганізацый, як шмат розных недзяржаўных ініцыятыў у Польшчы.

Што датычыць мэтаў, то мы лічым, што ёсць шмат заданняў ці праблем у грамадстве, якіх сама дзяржава не ў змозе вырашыць.

І мы лічым, што добра арганізаванае грамадства можа найлепш само сабе дапамагчы, павысіць актыўнасць людзей. І такім чынам, пабудова дэмакратычнага грамадства — асноўная мэта, якую мы ставім у сваёй дзейнасці.

**Вольга Гардзейчык**

# Знішчэнне мовы

*(працяг; пачатак у 31 н-ры)*

**8. Асвета**

**б) Савецкая русіфікацыя**

Пасля часовай беларусізацыі школы і справаводства ў Беларусі ў 30-я гг. зноў пачалася русіфікацыя, тады яшчэ ва Усходняй яе частцы (у Польшчы, як мы ведаем, паланізацыя школ пачалася раней). Нават пры гітлераўскай акупацыі, пры адмоўных адносінах акупантаў да адукацыі беларусаў як усходніх славянаў увогуле, былі адчынены беларускія школы. Пад канец 1941/1942 навучальнага года на той частцы тэрыторыі Беларусі, якая ўваходзіла ў склад так званага Генеральнага камісарыята Беларусі было 3485 пачатковых школ, у іх навучалася 346 тыс. вучняў і працавала 9716 настаўнікаў. Гэтыя колькасныя паказальнікі не вельмі адрозніваліся ад даваенных лічбаў за папярэдні даакупацыйны навучальны год на параўнальнай тэрыторыі Беларусі.

А вось калі аўтар гэтага артыкула вярнуўся з эвакуацыі ў вызвалены ад гітлераўцаў Мінск, там былі адкрыты беларускамоўныя школы толькі як няпоўныя сярэднія. У 1944/1945 навучальным годзе мужчынская сярэдняя школа была адна на горад (42-я), але рускамоўная.

У адносна ліберальны хрушчоўска-брэжнеўскі перыяд (калі знішчэння люду ў масавых памерах ужо не было), колькасць дзяцей, што навучаліся ў беларускамоўных школах, няўхільна памяншалася. Гэты працэс цягнуўся аж но да скону СССР і аднавіўся пасля абрання на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі. Ён працягваецца і зараз.

Затое для рускай мовы ствараліся ўмовы лепшыя за беларускую. У жніўні 1978 г. ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР выдалі пастанову „Пра мерапрыемствы па далейшым удасканаленні навучання і выкладання рускае мовы ў саюзных рэспубліках", у траўні 1983 г. — пастанову „Пра дадатковыя меры па паляпшэнні вывучэння рускай мовы ў агульнаадукацыйных школах і іншых навучальных установах саюзных рэспублік". У пастанове ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР ад траўня 1984 г. „Аб далейшым удасканаленні агульнай сярэдняй адукацыі моладзі і паляпшэнні ўмоваў працы агульнаадукацыйнай школы" пісалася: „У нацыянальных школах саюзных рэспублік выдзяляецца дадаткова 2-3 гадзіны на тыдзень у II-XI (XII) класах на вывучэнне рускай мовы". На аснове гэтых і іншых пастаноў партыйныя органы і ўрадавыя структуры Беларускай ССР распрацоўвалі дэталізаваныя меры па далейшым увядзенні ў абыход рускай мовы. Гэта натуральна азначала выцясненне мовы карэннага насельніцтва.

Аплачвалася ўсё гэта, зразумела, коштам саміх беларусаў. У значнай меры гэта працягваецца дасюль.

Згодна падлікаў А. Саламонава, старшыні Мінскай рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, у Мінску ў 1998/1999 навучальным годзе агульная колькасць вучняў складала 257 585 асоб, а з іхняга ліку вучылася па-беларуску 29 180 чалавек, гэта значыць 11,33%.

Калі палічыць, што беларусы складаюць пераважную бальшыню жыхароў Мінска, лёгка даведацца, што большасць беларускіх дзяцей пазбаўленая магчымасці навучацца роднай мове. Вышэй адзначалася, што аніводнае беларускае школы не засталося ў абласных цэнтрах краіны.

Уявіце сабе падобнае стаўленне да рускай школы і рускіх дзяцей на іхняй гістарычнай радзіме!

У этыцы існуе прынцып спачування. Пачынаецца ён з таго, каб здолець паставіць сябе на месца іншага і зірнуць на свет ягонымі вачыма. Калі я распавёў старшакласнікам двух пецярбургскіх школ (№ 479 і № 79) аб моўнай сітуацыі ў школе і па-за школаю ў Беларусі і запытаўся ў моладзі: „Як бы вы аднесліся да таго, каб у будучай аб'яднанай Беларуса-Расіі вас пераводзілі на беларускую мову навучання, давалі магчымасць чытаць пераважна беларускамоўныя кніжкі, часопісы, газеты, паказвалі б толькі беларускамоўныя перадачы?", я пачуў у адказ гул узбурэння.

А вось беларусы маўчаць. Цярпелі і не такое. Перацерпяць і зараз.

У 30-я гады XX ст. былі ліквідаваны ўсе беларускія школы, што былі створаны на пачатку савецкай улады ў Сібіры і на Далёкім Усходзе ў месцах кампактнага пражывання беларусаў. Гэта яшчэ адзін штрых да агульнай карціны.

Паколькі ад паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову залежыць далейшы лёс выпускнікоў сярэдняй школы, а выкладанне ў вышэйшай школе вядзецца выключна па-руску, бацькі вымушаны ўжо дзесяцігоддзямі адмаўляцца ад таго, каб іхнія дзеці навучаліся ў школе на роднай мове.

Здаецца, колішні план графа Навасільцава ўведзены ў жыццё.

*(працяг будзе)*

**Валянцін Грыцкевіч**

# Беларус спадзяецца лепшага

**Бліц-інтэрв'ю з былым старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам ШУШКЕВІЧАМ, адным з лідэраў беларускай апазіцыі.**

***— Цяпер мы з'яўляемся сведкамі ўзброенага канфлікту на Каўказе. Як вы думаеце, ці ў сувязі з каўказскім канфліктам беларускія ўлады пачнуць задумвацца над інтэграцыяй, памяншаць тэмп бегу ў бок Расіі. Альбо можа некаторыя беларускія грамадзяне пачнуць па-іншаму думаць пра расійска-беларускую інтэграцыю, паколькі некаторыя з'яўляюцца прыхільнікамі гэтага працэсу?***

— Я хачу вас супакоіць. Я ўжо не занепакоены праблемай яднання з Расіяй. Расія сама ў сябе не можа навесці парадак, яна развальіцца вельмі хутка. Беларускі народ разумны, ён не хоча пасылаць сваіх сыноў у Дагестан альбо Чачню, так, як некалі пасылаў у Афганістан. Гэта разумее, дарэчы, і Лукашэнка: ён можа ўсяму супрацьстаяць, але закон, які гаворыць, што беларускія грамадзяне не будуць удзельнічаць па-за межамі Беларусі ў нейкіх канфліктах, не ўдасца змяніць. Уступленне ў Расію было б адступленнем ад гэтага закона. Я не баюся гэтага саюза, паколькі раней развaліцца Расія, чым саюз пачне дзейнічаць.

***— Як вы думаеце, ці цяперашнюю сітуацыю ў Беларусі зможа змяніць эканамічная сітуацыя, ці можа нацыскі з боку міжнароднай супольнасці. Вяртаючыся да першай часткі пытання: эканамічная сітуацыя Беларусі пагаршаецца, ці прычынай адстаўкі ўладаў можа быць незадаволенасць на сацыяльнай глебе, зніжэнне ўзроўню жыцця?***

— Не варта чакаць выбухаў незадаволенасці, не трэба чакаць, што калі беларусам будзе вельмі дрэнна, адбудзецца нейкі сацыяльны выбух. Беларусы прывыклі выжываць ва ўмовах значна больш цяжкіх: падчас нямецкай акупацыі, падчас сталінскага тэрору ў 30-я гады. Кожны беларус не мае ніякай надзеі на дзяржаву, робіць тое, каб выжыць самому. Беларускі народ навучыўся адаптавацца да такога роду ўмоваў, нават да такіх агідных, як рэжым Лукашэнкі. Але беларус спадзяецца лепшага жыцця, ён бачыць, што гэты ўрад, гэта хеўра, якая незаконна ўтрымлівае ўладу, яна не ў стане забяспечыць добрае жыццё гэтаму народу. У гэтай хеўры адзін канец: на лаву падсудных за парушэнне законаў.

***— Апошнім часам у прэсе паявіліся чуткі, што старшыня Вярхоўнага Савета 13 склікання Сямён Шарэцкі хоча стварыць у эміграцыі беларускі ўрад. Што вы скажаце на такога роду паведамленні?***

— Я не ведаю пра такія намеры Сямёна Шарэцкага, вельмі часта з ім кантактуюся, размаўляю па тэлефоне. І таму, калі яму гэта прыпісваюць, няхай растлумачыць той, хто гэта яму прыпісвае...

***— ... значыць, паводле вас, гэта звычайная журналісцкая „качка"?***

— Мне цяжка сказаць, ці гэта журналісцкая „качка", ці наша, прапагандысцкая, урадавая. Сямён Шарэцкі з'яўляецца старшынёй легітымнага Вярхоўнага Савета, і калі дзейнічаць у канстытуцыйным полі, ён мае ўсе правы на тое, каб аб'явіць сябе выконваючым абавязкі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Валеры Саўко**

**Беларуская служба Польскага Радыё**

# Блакітная рэспубліка

(працяг; пачатак у 37 н-ры)

### 4. Адвячоркам у Свіслачы

**Беларускія мястэчкі, асавелыя ад маразму. Адвячоркам у Свіслачы ўсе сустрэтыя мужчыны выглядалі на расслабленых — як акрэсліў свой нецвярозы стан музыка мясцовай гасцініцы баяніст Сярожа.**

З Гудзевіч падаемся ў Свіслач, мястэчка ля польска-беларускай мяжы. Шмат часу і нерваў губляем на пошукі ўласцівай дарогі. Неахайна абазначаныя дарогі і скупая колькасць указальнікаў штораз прымушала блытаць маршрут.

— Ці ёсць закаранелыя беларусы ў Свіслачы? — пытаем нашага гіда Алеся Лобана.

— Ёсць адзін! — наш гарадзенскі сябра расказвае пра прыватнага прадпрымальніка Віктара Трашчановіча. Пра яго заядлую вайну са старшынёй свіслацкай прэзідэнцкай вертыкалі Анатолем Кузьмам, пра тое, як Віктара абвінавацілі „ў закліканні беларусаў Беласточчыны да звяржэння А. Лукашэнкі". Віктар Трашчановіч, нашчадак студзеньскага паўстанца, народжаны на Украіне, вярнуўся на зямлю сваіх продкаў ставіць Беларусь на ногі. Менавіта па яго ініцыятыве быў адноўлены помнік Віктару Каліноўскаму. Магіла старэйшага брата і духоўнага настаўніка Кастуся Каліноўскага сталася ў мястэчку сімвалам нацыянальнага адраджэння. У 1997 годзе ў Свіслач прыязджала некалькі соцень чалавек з Гародні, Мінска, Ліды... Алесь Лобан, які асабіста ангажаваўся ў адбудову помніка, успамінае, як мясцовыя ўлады хваравіта ўспрымалі наезд беларускай інтэлігенцыі з бел-чырвона-белымі сцягамі.

Хочам заехаць да Віктара Трашчановіча.

— Заедзем, калі яшчэ яго не пасадзілі, — робіць агаворку Алесь. Прыватны прадпрымальнік у Беларусі не ведае заўтрашняга дня. Сам Лукашэнка публічна назваў беларускіх бізнесменаў смярдзючымі „снікерсамі"!

У выпадку Віктара Трашчановіча сітуацыя паказалася надзвычай смярдзючай. Неўзабаве пасля адкрыцця помніка старшыня Кузьма пазваўшы ў свой офіс бізнесмена — нашчадка студзеньскага паўстанца, пры сведках літаральна заявіў: *Правільна, што павесілі Каліноўскага, усіх вас фашыстаў трэба вешаць!* Праз некалькі дзён Трашчановічу абакралі кватэру. У паштовай скрыньцы пачалі з'яўляцца запіскі з пагрозамі. Затым дахаты з вобыскам завіталі міліцыянеры, якія шукалі зброю і наркотыкі.



*Алесь Лобан ля магілы Віктара Каліноўскага.*

Жаданне сустрэцца з закаранелым абаронцам беларускага гонару, на жаль, закончылася безвынікова. Наш гарадзенскі сябра, спазнаўшы мястэчковыя тайны, вярнуўся дзіўна маўклівы.

Каб забыцца пра смурод, рашаем наведаць магілу Віктара Каліноўскага. Знаходзіцца яна побач праваслаўнай капліцы з чырвонай цэглы. Помнік пабудаваны паводле праекта Уладзіміра Панцялея, складаецца з двух валуноў, мемарыяльнай табліцы і кавальскай работы крыжа. На ім навешаныя бел-чырвона-белыя стужкі ад БНФ з Гародні. На табліцы надпіс: *Змагарам за незалежнасць Беларусі, героям паўстання 1863 году, ад удзячных нашчадкаў.*

Некалькі хвілін прысвячаем памяці паўстанцаў. Уражвае блізкае суседства царкоўкі. Непасрэдна за могільнікам распасціраюцца агароды.

— Я не магу глядзець як побач магіл садзяць капусту. Народ такі не мае будучыні! — хвалюецца наш гарадзенскі сябра.

А хіба ў Свіслачы пад сілу думаць пра будучыню? Мястэчка цалкам асавела ад маразму. У цэнтры гарадскога пасёлка, быццам цені, блукаліся падхмеленыя мужыкі. На прыступках магазіну выстойвалі выпівохі. Навокал іх кружыліся худыя бяздомныя сабакі. Выглядала на тое, што ўся, ледзь прыкметная, жыццёвая энергія ішла тут на адчайныя ўцёкі ад рэчаіснасці. Быццам алкагалізм стаўся самым простым спосабам жыцця-быцця.

Каб лепш улавіць душу Блакітнай рэспублікі, рашаем паспрабаваць самай таннай гарэлкі. За намовай сябра-лекара зракаемся аднак крайняга варыянту і купляем *лепшую* „Польку". За паўлітэрку плацім усяго паўдолара (польскія два злоты).

Але пакуль зглыбляць душу краіны, ідзем паглядзець мястэчка. Ва ўцалелым фрагменце будынка славутай гімназіі вядзецца рамонт. Перад гістарычным гмахам паіржавелая ракета-помнік. У цэнтры сустрэнеце яшчэ помнікі Леніну, Савецкім воінам, Рамуальду Траўгуту і бюст Кастуся Каліноўскага.

— Дзе тут калісьці стаяў палац Тышкевічаў? — пытаем у маладзёна з сланечнікам у руках.

Хлапец доўга задумоўваецца, урэшце адсылае нас да старэйшых. Тыповы жыхар беларускага мястэчка не мае аніякага ведаў пра гістарычныя памяткі сваёй мясціны.

— А што табе найбольш падабаецца ў Свіслачы? — яшчэ раз пытаем маладзёна.

— Што падабаецца? — хлопец спазірае на нас як на дурняў. — Всё подабаецца!

Пра палац Тышкевічаў пытаем яшчэ дзядзьку ў спартыўным касцюме. Гэты таксама не ў змозе дапамагчы, хаця сам падышоў да нашай машыны і завёў гутарку. Адразу пачаў захвальваць свае ўмеласці.

— *Я ўсе свадзьбы ў горадзе сыграў.* Пайшлі ў гасцініцу! *І вам сёе-тое сыграю!*

Паказалася, што размаўляем з найбольш вядомым у Свіслачы баяністам. Музыка, як належыць прафесіяналу, акуратна прадставіўся, затым папрасіў прабачэння за нецвярозы стан.



*Захаваны фрагмент будынка славутай Свіслацкай гімназіі.*

— Тры ночы працаваў, іграў, — паясняў нам з дапамогай жэстаў музыка Сярожа, — і, дачакаўшыся *выхаднога, — расслабіўся...*

Мне чамусьці ўспомніўся Віктар Шалкевіч і ягоны шэдэўр пра няшчаснага саксафаніста Сярожу. Літаратурны персанаж у многім напамінаў свіслацкага музыканта. Можа і тут непаседлівы бард шукаў натхнення? — падумалася неяк мімавольна.



*Свіслацкі абаронца міру.*

Пачуўшы нашу беларускую мову, дзядзька Сярожа памяняў тактыку.

— Вы б маю дачку з сабой забралі, пратэкцыю ёй бы зрабілі. Яна — *талант велікалепны, красавіца.*

Каб не даваць пустых абяцанак, чым хутчэй развітваемся з баяністам.

Пасля доўгага распытвання трапляем на жаданае месца, у палацовы ансамбль Тышкевічаў. Звесткі пра аднапавярховы драўляны палац пабудаваны ў XVIII стагоддзі графам Вінцэнтам Тышкевічам знаходзім у Энцыклапедыі архітэктуры Беларусі. Сёння адно можна ўявіць шыкарны палац з парадней залай, 12-цю жылымі пакоямі, кавярняй, гаспадарчымі памяшканнямі, завершаны гонтавым дахам складанай канфігурацыі. Або драўляны будынак у парку, дзе мясціўся тэатр і танцавальныя залы, аранжарэя, альтанкі, звярынец... На ацалелых палацавых прыступках зараз стаіць драўляны дом, напамінаючы сваім выглядам хутчэй за ўсё лесніковую пасаду. Там сустрэлі мы маладую жанчыну, якая чысціла бульбу. Пазнаёміліся таксама з гаспадаром, які ахвотна адказваў на нашы (часам дурныя) пытанні, як на той прыклад *Ці не пужае вас дух графа Тышкевіча?* Мелі мы, у прыватнасці, на ўвазе нецвярозы стан субяседніка.

Малады мужчына нічога не ведаў пра паноў і іх палацы. Махнуўшы красамоўна рукой, рушыў у кірунку цэнтра Свіслачы. А мы пайшлі ў стары палацовы парк, дзе гуляла моладзь і белабрывыя хлапчукі ля штучных вадаёмаў лавілі рыбу. У вочы кінуўся драўляны туалет, вядомы ў народзе як *нужнік*. І сметнікі размаляваныя алейнай фарбай на колер цёмнага блакіту. Надта незабыўнай паказалася яшчэ адна карціна. Побач старога палацовага парку калгасныя насадзілі рады маладых дрэўцаў, што мімавольна ўнушала прымаўку: *падыходзіць як кветка для кажуха.* Аднак самы вялікі скрыгат у прыродзе пабачылі мы ў чыстым полі, кіламетр за Свіслаччу. Пад'ехаўшы на месца аж напужаліся ад пабачанага. Перад намі ўзвышаўся помнік байца, варожа загледжанага на захад.

— Czy to białoruski Janosik? — папытаў нехта з нашай кампаніі.

Ахвота да жартаў і дурных асацыяцый хутка прапала. Побач байца архітэктар паставіў мемарыяльныя табліцы з прозвішчамі ахвяр загінуўшых з рук фашысцкіх захопнікаў. Помнік-гаргара здаўся нам класічным прыкладам сталінскай эстэтыкі. Пазней, калі згадалі пра яго Алесю Сураву, мастак выправіў нашу памылку. Помнік пабудаваны цалкам нядаўна, у пачатку 90-х, калі ў краіне пачалося адраджэнне. Супраць байцу-манументу, што апавядаюць у Беларусі як анекдот, пратэставала польскае пасольства. Дыпламатычны скрыгат, як гэта часта бывае ў палітыцы, узнік з-за варожага пагляду статуі ў бок Польшчы.

Сапраўды, гледзячы на выяву свіслацкага вартаўніка міру, думаем пра недарэчнае — пра смярдзючыя „снікерсы", пра варожасць Захаду да Беларусі, пра хворую манію вялікасці, падмацаваную спісам нявінных ахвяр.

*(працяг будзе)*

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

P.S. У рэпартажы скарыстаны інфармацыі Зміцера Кісе,ля „Дабраліся і да Беласточчыны" змешчаныя ў „Ніве" н-р 10 за 1999 год.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Дзеці з Новага Корніна. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Экскурсіі па сваёй зямлі

Першы тыдзень канікул я правяла дома. І трэба было нешта прыдумаць, каб не змарнаваць лета. Падумала — наведаю бабулі. Мае бабулі жывуць у адной вёсцы. Я магла начаваць адну ноч у адной бабулі, другую — у другой. Люблю вёску, свежае паветра, прыроду. Мне цікавей там, як у горадзе. На вёсцы я вытрымала два тыдні. Пасля зноў тры тыдні прасядзела ў горадзе. Я хвалявалася — мінаюць канікулы, а ў мяне не было нічога цікавага, ніякіх асабістых перажыванняў, прыгод. Аднойчы, калі я сустрэла сваіх сяброў, мы дамовіліся, што паедзем недзе над рэчку. І сапраўды — нашы планы здзейсніліся. Мы загаралі, купаліся. Пачалі таксама ладзіць веласіпедныя экскурсіі. І так ужо было да канца канікулаў. Раніцай ехалі ў дарогу, наведвалі вёскі, асабліваcці прыроды, спазнавалі лясныя шляхі і цікавыя месцы. Пазней доўга вечарам не хацелася спаць. У вачах мроілася экскурсія, прыгадваліся самыя цікавыя хвіліны перажытага.

Зараз я маю малую ўцеху, што ўсё ж не змарнавала канікул. Яшчэ і цяпер, калі сяджу за школьнай лаўкай успамінаю летнія карагоды з сябрамі. Сапраўды варта знаёміцца са сваёй зямлёй!

**Аня П., Гайнаўка**



Паўля з Руткі. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Гульня „гусі"

Дзеці выбіраюць гаспадыню і ваўка. Усе астатнія — гусі. Гусі стаяць насупраць гаспадыні, а воўк — трохі збоку. Паміж гаспадыняй і гусямі ідзе размова-дыялог:

— *Гусі, гусі!*
— *Га-га-га.*
— *Есці хочаце?*
— *Ага-ага-ага.*
— *Дык ляціце як мага!*
— *Га-га-га...*

Гусі бягуць да гаспадыні. Воўк ловіць іх. Каго зловіць, той праходзіць да ваўка і яны ўжо разам ловяць гусей. Вершаваны дыялог паўтараецца. Гульня працягваецца, пакуль не будуць злоўлены ўсе гусі.

Казімір КАРЫЗНА

## Лета не дагнаць

Адсінелі
Васількі.
Адляцелі
Матылькі.

Неяк
Вельмі непрыкметна
Адышло з цяплом
І лета...

Жураўліныя
Шнурочкі
І пажоўклыя
Лісточкі

З раніцы плывуць-ляцяць...
Ужо лета
Не дагнаць.

## Скорагаворка

Рак
Улез у лак —
і блішчыць ад лаку
Рак.

Васіль САХАРЧУК

## Моўныя загадкі

**1**

Спачатку першы склад
спатрэбіцца назваць,
а ён — прыстаўка.
Тады табе на добры лад
вышэйшая адзнака „5"
за гэта будзе стаўка.
Прыстаўку гэтую
з адзнакай той
складзеш,
разальюся я
ракою.
Якою —
назавеш.

*(Пры + 5 = Прыпяць)*

**2**

Без літары апошняй я —
стыхія дзікая
і валадарка хмар,
без склада першага —
няўклюда з клюшнямі,
рачны жыхар,
а поўны я ў зямлю
ўрастаю клінам,
бо я — расліна.

*(Бурак = бура + рак)*

**3**

Я рагаты,
я сахаты,
не даюся ў крыўду воўку,
але ў корані маім
ты зрабі перастаноўку,
і змянюся я зусім.
Раствагуся і нязнакам
стану ў страве я прысмакам.

*(Лось — соль)*

# Ліса і вінаград

***(казка)***

Жылі-былі дзед і баба. Пасадзілі яны паўагарода вінаграду. Унадзілася ў вінаград ліса з лесу. Шчыпле і шчыпле. Баба і пытае:

— Дзед, хто ў нас усё рве?

— А я ведаю? Трэба пасцерагчы.

Дзед узяў сабак навязаў і сам сцеражэ. Якраз і ліса бяжыць.

— А во ён, — кажа дзед, — злодзей.

Адвязаў сабак, яны і пагналі лісу ў лес. Бегла яна, бегла, то аб пень, то аб калоду білася. Ускочыла ў нару і крычыць:

— Вушкі, рады, што ўцяклі?
— Рады.
— А вы, ножкі, рады?
— Рады.
— А ты, хвосцік, рад?
— Я не рад.
— Тады наце, сабакі, ешце яго!

Высунула з нары хвост. Сабакі як узяліся, выцягнулі лісу і з'елі яе.

„ЗОРКА" № 39 26.09.1999




*Навучэнцы з Нарвы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Ён + Яна = ...

Яна называецца Марта, а ён — Марцін. Сустрэла яна яго ў час летніх канікул, якія праводзіла ў бабулі. Ён быў старэйшы ад яе на пяць гадоў. Паходзілі яны з аднаго горада. Марта закахалася ў Марціна. Не спала начамі, а калі засынала, сніўся ёй толькі ён. Сны, на жаль, не былі рэчаіснасцю, і Марта марыла, каб сталі явай. Аднойчы пайшла на дыскатэку і пазнаёмілася з ім. Паўночы танцавалі разам. Прыйшоў час ісці дадому. Марцін запрапанаваў дзяўчыне, што правядзе яе да бабулінага дому. Марта была шчаслівая. Аказваецца, і ў горадзе яны жывуць недалёка адно ад аднаго! Падумалі, што маглі б сустракацца ў горадзе. Марцін адвёў Марту дадому, і размова абарвалася. Маўчалі. Усюды было ціха і цёмна. Яны стаялі насупраць сябе. Раптам ён пацалаваў яе. Матра адвярнулася і ўсміхнулася сама сабе. Марцін не азваўся ні словам, толькі абняў дзяўчыну. Раптам яна вырвалася з абдымкаў і пайшла ў бок бабулінай хаты. На парозе адвярнулася і сказала: „Да пабачэння". А ён крыкнуў: „Да сустрэчы!"

Марцін стаяў яшчэ крыху і глядзеў, як дзяўчына знікае ў цемры, потым рушыў у свой бок. А дзяўчына доўга ляжала на ложку, не магла заснуць. Усё думала, ці добра зрабіла, дазволіўшы пацалавацца малавядомаму хлопцу.

Раніцай Марта пачула, што бабуля на падворку з кімсьці гутарыць. Выйшла на вуліцу. З бабуляй размаўляў Марцін. Прасіў прабачэння, што так рана іх разбудзіў і паведаміў, што выбіраецца ў горад, прыедзе да свае бабулі праз тыдзень.

Вестка ашарашыла Марту — не ведала, ці вытрымае столькі часу без яго! Марцін спяшаўся — цягнік адыходзіў праз некалькі хвілін. Марта села на крэсла і не ведала, што рабіць — ці самой таксама ехаць у горад, ці цярпліва чакаць, калі каханы прыедзе. Пакуль раздумвала, прыйшла бабуля і пачала распытваць, што гэта за хлопец прыходзіў. Марта хутка сказала бабулі, чый ён унук, спакавала свае рэчы, сказаўшы, што вернецца праз тыдзень і выбегла з хаты, каб паспець на наступны цягнік.

На вуліцы раптам пачула сваё імя. На вакзале стаяў Марцін. Чаму ж не паехаў, то ж цягнік адправіўся гадзіну таму?

Селі ў вагон. Дамовіліся, што сустрэнуцца ў вёсцы ў суботу, а пасля могуць сустракацца і ў горадзе. Дарога мінула хутка. Калі прыехалі, разышліся кожнае ў свой бок.

На другі дзень сустрэліся. Марцін запрасіў дзяўчыну на марожанае. Марта ўвес час раздумвала, што пра такога хлопца марыла ўсё жыццё — Марцін вось не п'е, не курыць, такі культурны і мілы... Калі з'елі марожанае, Марцін запрапанаваў, каб пайсці ў парк. Калі збіраліся выходзіць з рэстарана, увайшла вельмі прыгожая дзяўчына, выразна старэйшая ад Марты. Марцін прывітаўся з прыгажуняй і сказаў, што адвязе яе дадому. Хвіліну пасядзелі яны ўтраіх у рэстаране, затым Марцін развітаўся з Мартай, а з той другой падышоў да аўтамабіля. Марта ўміг зразумела, што яна тут непатрэбная. Крыўда рэзанула па сэрцы, але яна адчула — гэта, відаць, не было яе сапраўднае каханне! І хаця горыч зацягнула яе душу, падумала, што незадоўга ў яе сэрца каханне зноў завітае і ўсміхнулася. **А. П.**

**Уладзімір АРЛОЎ**

# Адкуль наш род — апавяданні па гісторыі Беларусі

***(працяг; пачатак у 38 н-ры)***

**Бітва на Нямізе**

Усяслаў Чарадзей праславіўся і сваімі ваеннымі подзвігамі. Сабраўшы моцную дружыну, ён перамог войска наўгародцаў, загадаў зняць з наўгародскай Сафіі званы і прывезці іх у Полацк. Потым Чарадзей зрабіў яшчэ адзін удалы паход на землі, дзе жылі літоўцы.

Поспехі палачанаў страшэнна напалохалі іхніх ворагаў. Трое сыноў Яраслава Мудрага на чале з кіеўскім князем Ізяславам напалі на Менск. Горад быў спалены, усіх мужчын пасеклі, а жанчын і дзяцей забралі ў палон.

Усяслаў не мог дазволіць варожай дружыне прарвацца ў глыбіню Полацкай дзяржавы. Два войскі сышліся паблізу Менска на рацэ Нямізе. Цэлы тыдзень яны, ашчацініўшыся дзідамі, стаялі насупраць адно аднаго ў глыбокім снезе, а тады князь Чарадзей падняў над галавою руку з мячом, і закіпела бітва. Звінелі мячы, ламаліся ад смяротных удараў коп'і, застывала на снезе гарачая кроў. Старажытны паэт напісаў пра тую сечу:

Нямігі крывавыя берагі
не збожжам былі засеяны зноў —
засеяны косцьмі рускіх сыноў.

Шмат Усяслававых воінаў палегла, аднак палачане баранілі радзіму, і гэта прымнажала ім сілу. Яны не пусцілі чужынцаў на нашу зямлю і прымусілі сыноў Яраслава адступіць.

Бітва на Нямізе адбылася ў 1067 годзе. Апавядаючы пра яе, летапісцы ўпершыню ўспомнілі ў сваіх запісах Менск. Ад гэтага года сталіца Беларусі і лічыць свой узрост.

***(працяг будзе)***

**Задача чытачу**

***Сябры! Прапануем Вашай увазе конкурс.***

Вашай задачай будзе размаляваць у выглядзе комікса гісторыю князя Усяслава Чарадзея. Самыя цікавыя малюнкі надрукуем, а аўтары атрымаюць узнагароды — каляровыя алоўкі. Усіх зацікаўленых конкурсам просім дасылаць працы на працягу трох тыдняў.



*Аленька Бухаленка з Наваградка.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Польска-беларуская крыжаванка № 39

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Rzecz | Etap | | | Ambasa-dor | Koza | | | Ziemia | Orszak | | Duma |
| ▶ Р | ▼ Э | Ч | Pora | ▼ П | Rada | ▶ К | А | ▼ З | ▼ А | Przekleń-stwo | ▼ Г |
| Zagon | Т | Łach | ▼ П | А | ▼ Р | Msza | Niewola | ▶ Я | Р | ▼ М | О |
| ▶ П | А | ▼ Л | А | С | А | As | ▶ І | М | Ш | А | Н |
| Rasa | ▶ П | А | Р | О | Д | ▼ Д | Łatka | ▶ Л | А | Т | А |
| Kawaler | | ▶ Х | А | Л | А | С | Ц | Я | К | | Р |

# Сёлета было мнагалюдна




*На заліве Бахматы можна ўзяць на пракат водныя веласіпеды.*

— Сёлета больш было індывідуальных турыстаў чым арганізаваных груп. У нашым асяродку пакоі найчасцей наймалі жыхары Варшавы і Беластока, але адпачывалі нават асобы са Шлёнска і іншых далёкіх гарадоў Польшчы. Людзі найчасцей прыязджалі са сваімі сем'ямі, маладыя часта начавалі ў палатках, а жыхары навакольных мясцовасцей адпачывалі найчасцей па суботах і нядзелях, калі было добрае надвор'е, — кажа дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Дубічах-Царкоўных і заадно дырэктар Асяродка адпачынку „Бахматы" Іаланта Соха.

У трох драўляных дамах, распаложаных каля заліва Бахматы (непадалёк Дубіч-Царкоўных) можа адпачываць 37 асоб. Ва ўсіх дамах кухні, ванныя і туалеты. У самым новым, пабудаваным у стылі шляхецкага дома, на нізе знаходзіцца канферэнцыйная зала. Заліў плошчаю 5,6 гектара мае выдзеленыя месцы для купання. На месцы можна ўзяць на пракат байдаркі, лодкі, а нават веласіпеды, каб ездзіць у запаведнікі прыроды ў Чахах-Арлянскіх (78 гектараў), Старыне (370 гектараў) і Елянцы (227 г.).

Турысты пачынаюць прыязджаць да нас ужо ў маі. Некаторыя наведваюць нас яшчэ ў лістападзе. У шляхецкі дом прыязджаюць вітаць Новы год. Сёлета было мнагалюдна, а асабліва ў ліпені, калі было вельмі горача, — расказвае дырэктар Іаланта Соха. — Недалёка ад вады знаходзіцца палатачнае поле. Даведзены туды вада і электраэнергія. Некаторыя турысты прыязджаюць штогод і ўжо на год раней пачынаем бранíраваць месцы. Мацей Гурскі з Варшавы адпачывае з бацькамі штогод.

Для турыстаў і жыхароў навакольных мясцовасцей арганізаваны былі спартыўныя спаборніцтвы. Дзеці і моладзь гралі ў настольны тэніс і бадмінтон, былі спаборніцтвы на водных веласіпедах, мастацкія конкурсы. Для старэйшых на пляжы праводзіліся спаборніцтвы па футболу і валейболу. Зараз, калі крыху стала халадней, настаў добры час для вудзільшчыкаў і аматараў экскурсій.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

# Цэрквы Беластока

У маі г.г. Уладзіслаў Петрук адзначаў 20-гадовы юбілей творчай працы. Да гэтай падзеі былі прымеркаваны выхад альбома „Драгічынская дыяцэзія" і выставы яговых прац у Беластоку і Гайнаўцы, на якіх экспанаваліся малюнкі ахітэктурных помнікаў Беласточчыны. Аднак мастак не спачыў на лаўрах і ў юбілейным годзе выдаў другі альбом — „Цэрквы Беластока", які складаюць дзесяць карцін беластоцкіх праваслаўных храмаў, выкананых характэрнай мастаку тэхнікай. Камплект малюнкаў адкрывае Свята-Мікалаеўскі кафедральны сабор. За ім прадстаўлены цэрквы Святога Духа, Прамудрасці Божай, Усіх Святых, Уваскрэсення Гасподняга (яшчэ будуецца), св. Ільі, Узддвіжання Крыжа Гасподняга, Успення Прасвятой Багародзіцы, св. Марыі Магдаліны і св. Еўфрасінні Полацкай (на малюнку). Апошні храм пабудаваны быў у 1990-1993 гадах на новым могільніку ў квартале Старасельцы. Да папкі з карцінамі прыкладзены яшчэ гістарычны нарыс пра беластоцкія цэрквы пяра прафесара Антона Мірановіча на польскай і рускай мовах. **(вл)**



# Фэст у Гарадку

У пагодную нядзелю 12 верасня ў маляўнічым сасновым гарадоцкім урочышчы „Барык" адбыўся беларускі народны фэст, арганізаваны ГП БГКТ і гміннымі ўладамі. Незлічоныя лаўкі перад агромністай сцэнай, зрыхтаванай пад студэнцкае „Басовішча", запоўніліся жыхарамі Гарадка і навакольных вёсак.

Адкрыў фэст войт Гарадоцкай гміны Яўген Семянюк, які сардэчна прывітаў шматлікую публіку і запрошаных на фэст гасцей: віцэ-консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Паўла Латушку з сям'ёй, пасла Сейма і заадно старшыню ГП БГКТ Яна Сычэўскага і старшыню Гміннай управы ў Гарадку Веслава Кулешу. Ян Сычэўскі ў сваю чаргу пажадаў прысутным прыемнага адпачынку і добрых уражанняў ад канцэрта, які павяла сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч.

На сцэну выйшаў „Расспяваны Гарадок", жаночы хор пад мастацкім кіраўніцтвам Сцяпана Копы. Ужо звыш 45 гадоў гэты папулярны калектыў расслаўляе беларускую народную песню не толькі на Беласточчыне. Хор успрымаўся публікай надзвычай цёпла. Слухачам падабалася галасістая салістка Марыя Врублеўская.

Пасля выступіў новы гарадоцкі хор „Асенні ліст", які складаюць спевакі пенсіённага ўзросту. Пад мастацкім кіраўніцтвам Юркі Астапчука выканалі яны некалькі беларускіх народных песень.

На сцэне паявіўся дырэктар Абласнога метадычнага цэнтра ў Гародні Алесь Лойка з жонкай Зояй. У сямейным дуэце яны праспявалі народныя песні „Падманула, падвяла" і „Ой хацела ж мяне маць", а таксама песню вядомага гродзенскага кампазітара Аляксандра Шыдлоўскага „Колькі ў небе зор".

Дэбютаваў на сцэне гарадоцкі маладзёжны эстрадны калектыў — ізноў пад мастацкім кіраўніцтвам Юркі Астапчука. Ён з роднымі братамі Савам і Міхасём пад музычны акампанемент шасці хлопцаў выканалі дзве вядомыя беларускія песні з рэпертуару мінскіх „Песняроў" — „Ажанілі мяне, малалетняга" і „Александрыну".

Выступалі таксама беластоцкія гурты „Казанова" пад кіраўніцтвам Яна Усціновіча і „Ас".

Публіка горача ўспрыняла „Крыніцу" — хор Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, які працуе пад кіраўніцтвам Віктара Маланчыка з Гародні і Галены Арцішэўскай з Беластока. Хор выканаў некалькі беларускіх народных песень.

Перадапошнімі на сцэну выйшлі знакамітыя „Прымакі" — Юрка і Марэк. Папулярную песню „Ой, братка беларус" прысвяцілі яны віцэ-консулу Паўлу Латушку і ягонай сям'і.

На заканчэнне выступілі госці — ансамбль народнай песні „Медуніца" з Ваўкавыскага дома культуры пад мастацкім кіраўніцтвам Дзмітрыя Дудзінскага. Пад акампанемент двух акардэаністаў і скрыпачкі жаночы секстэт выканаў некалькі беларускіх папулярных народных песень і вясёлыя частушкі.

Валянціна Ласкевіч падзякавала сардэчна публіцы за ўдзел у канцэрце; войту, гміннай управе і дырэктару Гарадоцкага асяродка культуры за падрыхтоўку фэсту; спонсарам — за фінансавую дапамогу ў правядзенні мерапрыемства.

Усе выканаўцы супольна заспявалі песню-гімн Беласточчыны „Люблю наш край" на словы Канстанцыі Буйло. На фэсце прадаваліся касеты беларускіх мастацкіх калектываў Беласточчыны, Віктар Швед падпісваў свае паэтычныя зборнікі. **В. Ш.**

# Праграмнай рэвалюцыі не будзе

[1 ☞ працяг]
грамы сёмага і восьмага класаў падставовай школы, а вучні першага класа гімназіі будуць карыстацца падручнікамі „Крыніцы".

***— Школы, якія адкрываюць у сябе гімназіі атрымоўваюць дапамогу. На якую падтрымку можа разлічваць гімназія з дадатковым навучаннем беларускай мове?***

— Міністэрства нацыянальнай адукацыі перадало нам 10 новых камп'ютэраў з новымі праграмамі. Старaства павета прызначыла нам 4 тысячы 800 злотых на курсы абслугі камп'ютэраў, у якіх ужо ўдзельнічала 10 настаўнікаў, а трое будуць вучыцца яшчэ ў верасні. Камп'ютэрамі, падключанымі да Інтэрнэту, змогуць карыстацца вучні ў ходзе розных заняткаў. Старaства атрымала таксама пацвярджэнне, што на мадэрнізацыю нашага будынка і прыстасаванне яго да патрэб гімназіі выдзелена нам 50 тысяч злотых.

***— У бягучым школьным годзе мінае 50 гадоў існавання ў Гайнаўцы беларускага ліцэя. Як будзеце адзначаць гэтую гадавіну?***

— У 1999/2000 годзе плануем арганізаваць вялікі конкурс па гісторыі нашага ліцэя. Тэма юбілею будзе ставіцца на ўроках, будзем наладжваць сустрэчы з выпускнікамі і настаўнікамі ліцэя. Вясною плануем арганізаваць навуковую канферэнцыю на тэму навучання беларускай мове ў былым Беластоцкім ваяводстве, з асаблівым улікам наваколля Гайнаўкі. Калі будуць сродкі, сарганізуем у нас фестываль творчасці школ нацыянальных меншасцей. Да ўдзелу запрасілі б моладзь з беларускіх, украінскіх, літоўскіх ці кашубскіх школ. А найбольш урачыстым мерапрыемствам быў бы з'езд выпускнікоў у чэрвені 2000 года. З'езд быў бы завяршэннем нашых святкаванняў.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

# З думкай пра Новы год

Хоць да Новага года застаецца больш чым тры месяцы, некаторыя ўжо пачалі думаць пра карнавальныя забавы. Рабочыя каменнавугальнай шахты „Бэлхатаў", напрыклад, рашылі навагодні вечар правесці з фолькавым калектывам „Чарамшына". Запрашэнне калектыў прыняў з задавальненнем.

Значыцца, „Чарамшына" расцвітае не толькі летам, цвіце і зімою ды славіць свой родны чаромхаўскі кут па ўсёй краіне. **(ус)**

# Паштоўка з канікулаў

Гмінная публічная бібліятэка ў Белавежы (вул. А. Вашкевіча 3) аб'яўляе пластычны конкурс для дзяцей ва ўзросце да 13 гадоў пад загалоўкам „Паштоўка з канікулаў". Рысункі павінны мець фармат А-4 (21 х 29,7 см). Тэхніка выканання — адвольная. Рысункі прымаюцца да 20 кастрычніка г.г. Найлепшыя працы будуць узнагароджаны ў двух узроставых катэгорыях: класы 0-III і IV-VI. **(гай)**

# Жыццё і дзейнасць Лукаша Дзекуць-Малея

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

**Пакуты за беларускасць**

Пётр Дайлюдзёнак, родам з Глыбокага — пенсіянер, ганаровы прэсвітэр баптысцкай царквы ў Польшчы — пазнаў Лукаша Дзекуць-Малея ў Гданьску ў 1946 г. на злёце баптысцкай моладзі. Л. Дзекуць-Малей якраз выязджаў у Бельск-Падляшскі. З Сібіры вярталася яго жонка з дзецьмі. Таму і перапрашаў моладзь за сваю адсутнасць. Пётр Дайлюдзёнак успамінае Л. Дзекуць-Малея як стойкага, энергічнага, невысокага росту дзядка, які звяртаўся да моладзі з пытаннем: „Дзе вашы мячы?"

На Беласточчыне, у наваколлі Гайнаўкі, Бельска і Белавежы, дзе да сённяшняга існуюць асяродкі баптызму, старэйшыя людзі памятаюць місіянерскую дзейнасць Л. Дзекуць-Малея. Нават маюць здымкі. Пераканалася я аб тым, пазнаўшы выпадкова Эве Алімоўскай з Нарвы, з якой пазнаёмілася будучы там на Сустрэчах „Зоркі". Да вайны вёў пропаведзі на рускай мове, у нядзельнай школцы ў Брэсце вучыў беларускай мове. Па вайне ў Гданьску не гаварыў па-беларуску. Можа таму, што людзі былі збіраны, — казаў У. Жултко.

Сын Лукаша, Даніла, мяркуе, што бацька, перажыўшы шмат, не хацеў перашкодзіць больш ні сабе, ні сваім дзецям. Таму нікому з дзяцей не ўспамінаў пра сваю беларускую дзейнасць.

За беларускасць Сэрафіны і Лукаша Дзекуць-Малеяў адпакутавала ўся сям'я пасля верасня 1939 г. Пасля паўвека Даніла Дзекуць-Малей яшчэ не ў змозе спакойна ўспамінаць іх пакутны лёс у тыя гады. На яго вочы наплываюць слёзы і не хапае слоў, каб да канца расказаць пра свае перажыванні. Толькі за чарговай сустрэчай я даведалася пра ягонага брата — Лукаша (нар. 1924 г.). У 1939 г. вёў ён хор у зборы і ў школе. Быў вельмі здольны, прыгожа іграў на мандаліне. Калі прыйшлі саветы, хацелі, каб уступіў у камсамол. Брат не згадзіўся. І як палітычны вязень апынуўся ў Брэсцкай крэпасці. Неяк адтуль удалося ўцячы ў Лодзь, дзе былі бацькавы сябры-баптысты Вальдэмар Гутшэ і Габрыель Болтнеў. Яны і перахавалі Лукаша. Адтуль з'ехаў ён у Нямеччыну, закончыў медыцыну ў Гайдэльбергу і зараз працуе там прафесарам медыцыны, хірургам. Першы раз Даніла сустрэўся са сваім братам у Нямеччыне, вядома, нелегальна, у 1971 г.

— У кастрычніку 1939 г. забаранілі набажэнствы ў баптысцкай царкве ў Брэсце. Вясной 1940 г. дазволілі. Адзін з членаў збору стаў дырэктарам трэста „Зялёных насаджэнняў" і прыняў на працу бацьку, — успамінае Даніла Дзекуць-Малей. — НКВД прыходзіла, рабіла рэвізіі неспадзявана. Пыталі: „С чего вы живёте? Кто ему дал работу? Он не имеет никаких прав!" Найгоршая трагедыя пачалася ноччу з 19 на 20 чэрвеня 1941 г. У пяць гадзін раніцы прыйшлі, усіх разбудзілі і далі 15 мінут, каб сабрацца. Дзеці былі ў перапалоху. На машыне завезлі ўсіх на таварную станцыю Шпановічы. Там аддзялілі ад нас бацьку, пад прыдуманай прычынай сям'і ў Гродне, што туды бышцам яго паслаць. Я выў нялюдскім голасам і не пускаў бацьку, тады адзін з энкавэдзістаў штыком піхнуў мяне ў нос, што па сённяшні дзень перакрыўлены.

Як пазней аказалася, Лукаш Дзекуць-Малей быў паводле 58 артыкула прыгавораны да смяротнага пакарання. Расстрэлу чакаў у турме недалёка Мухаўца. Білі яго нагамі ў жывот. Ледзь жывым быў, калі 22 чэрвеня турму занялі немцы. Адзеты ў ільняны мяшок, Л. Дзекуць-Малей вярнуўся дахаты. Немцы дазволілі на рэлігійную дзейнасць. Бачачы здзекі над знаёмымі яўрэямі ў Брэсце, як мог дапамагаў ім.



*Даніла Дзекуць-Малей ля магілы бацькі.*

У 1943 г. за гэта быў высланы ў лагер працы ў Ліпяны каля Шчэціна. Перажыў бамбардзіроўку гэтага лагера ў 1945 г. і вызваліўшыся пачаў евангельскую дзейнасць. У тым жа годзе стаў членам Галоўнай рады Касцёла евангельскіх хрысціян-баптыстаў.

Сэрафіна Дзекуць-Малей з сынам Данілам і дочкамі Сэрафінай (Сімай) і Альжбетай (Ліляй), была закінута ў таварны цягнік.

— Пасля паўтара месяца падарожжа ў быдлячых вагонах даехалі да Барнаула ў Алтайскі край. Там трапілі ў баварачны пасёлак. У снежні 1942 г. пагрузілі ўсіх на параход. Плылі 4 дні. Вакол быў лес. Маці працавала ў будаўніцтве. Ставіла дамы. Сястра рабіла ў магазіне парадкі, а мне трэба было за суткі сплесці 15 метраў рыбацкай сеткі. Сённяшні магу гэта ўпоцемкі рабіць, — праз слёзы гаворыць Даніла.

Сэрафіна Дзекуць-Малей два разы памірала на сэрца. Аддзялялі яе ад дзяцей. Але яна змагалася, каб усе былі разам. Цягалі яе на допыты, — усё ведалі пра дзейнасць Дзекуць-Малеяў, мелі на ўсё дакументы. Дзякуючы дабрыні рускіх простых людзей, усім удалося выжыць. У чэрвені 1946 г. прыехалі ў Бельск-Падляшскі, там мелі знаёмых яшчэ з даваенных часоў. Адтуль паехалі ў Гданьск. Але і там жыццё не было салодкае, часта хаваліся, мянялі кватэры. У канцы пасяліліся ў памяшканні збору, па вул. Дамброўскага 11, дзе Сэрафіна і Лукаш Дзекуць-Малеі дажылі да смерці. Лёс дзяцей таксама быў няпросты: па некалькі разоў выкідалі іх са школаў як ворагаў народа, калі ў анкетах пра сваё прошлае ўспаміналі Сібір. Даніла закончыў Медыцынскую акадэмію, зараз пенсіянер. Працуе яшчэ як лекар медыцыны працы, актыўна дзейнічае ў Ваяводскім праўленні Саюза сібіракаў у Гданьску. Сіма закончыла Вышэйшую школу замежнага гандлю ў Шчэціне, працавала там у банку, у канцы 80-х гадоў выехала з мужам у Нямеччыну. Ліля закончыла школу фельчараў у Гданьску і працавала ў сваёй спецыяльнасці. У канцы 60-х гадоў пачала цяжка хварэць. Выехала на лячэнне ў Канаду і там памерла ў 1987 г.

Лёс Лукаша Дзекуць-Малея вельмі падобны да лёсу беларускай інтэлігенцыі, якая пасля II сусветнай вайны апынулася ў Польшчы і вымушана была адмовіцца ад беларускасці дзеля звычайнага людскога выжывання, каб зберагчы сваіх дзяцей ад пакутавання за Беларусь.

Як жа красамоўным з'яўляецца надпіс на „Arkuszu informacyjnym" ад 24 сакавіка 1950 г. пра Лукаша Дзекуць-Малея, які захоўваецца ў Цэнтральным архіве Міністэрства ўнутраных спраў: „współpracuje z wywiadem angielskim".

**Лена Глагоўская**

PS. Калі запыталася я ў Данілы Дзекуць-Малея, як гэта магчыма, што толькі гэтай вясной знайшла я магілу ягонага бацькі, адказ быў просты: „Раней пры алеі расла жывая агароджа, а перад Вялікаднем яе высеклі". **Л. Г.**

# А было гэта...

17 верасня 1939 г. — нядзеля. Чырвоная Армія перайшла тадышнюю савецка-польскую граніцу. Польскаму паслу ў Маскве В. Гжыбоўскаму дадзена была ад В. Молатава нота, у якой гаварылася, што Польшча, як дзяржава, ужо не існуе, таму што польскі ўрад уцёк з Варшавы за граніцу, нямецкія арміі ідуць уперад не спатыкаючы амаль ніякога супрацьстаўлення. У існуючым становішчы ўрад СССР лічыць, што падпісаны з гэтым урадам пакт цяпер ужо неіснуючай дзяржавы страціў сваю сілу і сэнс, таму Чырвоная Армія атрымала прыказ: перайсці граніцу былой Польшчы і ўзяць пад сваю абарону насельніцтва Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. В. Гжыбоўскі адмовіўся прыняць гэтую ноту. А Чырвоная Армія ішла ўперад не спатыкаючы з польскага боку, апрача Гародні, амаль ніякага супраціву, радасна сустракалася беларускім насельніцтвам, да чаго давяла гэтае насельніцтва палітыка санацыйных урадаў. Насустрач Чырвонай Арміі ішлі калоны вязняў з канцлагера ў Картуз-Бярозе, якія вырваліся з яго пасля ўцёкаў аховы. Ішлі яны з брытымі галовамі, у паласатых турэмных халатах, драўляных сандалях, а на працягнутай руцэ кожны з іх нёс скібачку хлеба з глінай — такога, якім кармілі іх у канцлагеры. Ужо 20 верасня на станцыю ў Чаромсе прыбыла дрызіна з двума лейтэнантамі і байцамі, якія занялі будынак станцыі, частка якога, з рэстаранам і залай І-га класа, была разбурана нямецкай бомбай, а і ў другую частку вакзала таксама папала бомба, але, на шчасце, не ўзарвалася. Агулам, на станцыю ў Чаромсе нямецкія самалёты скінулі больш 200 бомбаў. На кветніках сядзела і хадзіла многа польскіх жаўнераў без зброі, якіх у палон ніхто не браў. Яны проста хацелі даехаць дадому. Жаўнеры былі згорклымі і злымі на ўсё ў свеце, а галоўным чынам — на польскі ўрад і галоўнакамандуючага маршала Эдварда Рыдза-Сміглага. „Nasz Edzio «dobrze» nas prowadził!" — гаварылі яны. А галоўныя сілы Чырвонай Арміі пачалі ісці 22 верасня. Ішлі ў поўным парадку, без якіх-небудзь эксцэсаў. Нават польскія падпольшчыкі паведамлялі свой эміграцыйны ўрад у Парыжы, што „stosunek wojskowych sowieckich do ludności polskiej — poprawny". Гэта пасля, калі прыехалі ды абасналіся энкавэдзісты і пачалі сваю непахвальную і неразумную дзейнасць, становішча пачало мяняцца. У Чырвонай Арміі было відаць многа артылерыі, нямала матарызацыі — разумеецца — у параўнанні да польскай арміі. Пра нямецкую армію не ўспамінаю таму, што ў 1939 г. праз Чаромху на Брэст ішоў корпус ген. Г. Гудэрыяна, поўнасцю зматарызаваны (былі ў немцаў дывізіі і на конскай цязе). Савецкія камандзіры, нягледзячы на чыны, вельмі ветліва звярталіся да насельніцтва, ахвотна ўступалі ў размову. У гэтым няма нічога дзіўнага: то ж амаль 70% тадышняга праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны былі былымі грамадзянамі Расіі, якія толькі каля 20 гадоў пражылі пад польскім панаваннем. Значыла, свае прыйшлі да сваіх. Пра адносіны польскіх афіцэраў да простага праваслаўнага насельніцтва нельга сказаць нічога канкрэтнага, бо ім не рэкамендавалася збліжацца з простым народам; не мог афіцэр ехаць у вагоне 3-га класа, сядзець у тэатры ў задніх радах, заходзіць у простыя рэстараны, жаніцца з небагатай дзяўчынай і г.д.; жонка польскага афіцэра не магла быць праваслаўнай.

Хаця з Нямеччынай 23 жніўня 1939 г. быў падпісаны пакт аб неагрэсіі, СССР як вялікая дзяржава, вяла далей сваю самастойную палітыку. Агітатары гаварылі: „Мы чулі, што немец хоча ўзяць вас пад сваю фашысцкую ўладу, таму Чырвоная Армія атрымала прыказ: перайсці граніцу былой Польшчы і ўзяць пад сваю абарону насельніцтва Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны захопленае легіянерамі Пілсудскага ў 1920 годзе". У тым была яшчэ і другая, ваенная мэта: не дапусціць да таго, каб нямецкія арміі захапілі тэрыторыю пад сам Мінск, які знаходзіўся вельмі блізка ад тадышняй польскай граніцы. Але аб гэтым нельга было тады адкрыта гаварыць, каб не дражніць немцаў.

Усім адукаваным людзям вядома тэорыя, што „Бог даў дыпламатам языкі для таго, каб яны маглі ілгаць". 22 верасня ў Брэсце адбыўся парад спаткаўшыхся нямецкіх і савецкіх войск. Парад прымалі на супольнай трыбуне: з нямецкага боку — генерал-лейтэнант танкавых войск Гайнц Гудэрыян, з савецкага боку — камбрыг (генерал-маёр) танкавых войск Сямён Крывашэін. Абодва генералы стаялі разам на трыбуне. Г. Гудэрыяну вельмі спадабаўся С. Крывашэін, які выдатна валодаў французскай мовай і мог з ім размаўляць без перакладчыка. І такіх камандзіраў (генеральскія чыны былі ўведзены ў Чырвонай Арміі ў маі 1940 г.) мела яшчэ тады Чырвоная Армія! Правядзенне супольнага парада было, разумеецца, узгоднена з самім Сталіным, але ў газетах аб гэтым парадзе нічога не пісалі. У будучыні С. Крывашэін меў з-за гэтага непрыемнасці: у студзені-лютым 1945 г., калі Чырвоная Армія ўвайшла ва Усходнюю Прусію, былі знойдзены стужкі нямецкай кінахронікі з супольнага парада нямецкіх і савецкіх войск у Брэсце. С. Крывашэіна вызвалі ў контрразведку і цэлы дзень яго там „спавядалі", як ён дайшоў да таго, каб з фашысцкім генералам рабіць супольны парад. Крывашэін тлумачыўся, што зрабіў гэта па прыказу і за ведамам самога Сталіна. Тады яго адпусцілі.

Заняцце Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны Чырвонай Арміяй, на маю думку, не было акупацыяй, як гэта цяпер лічаць польскія палітыкі і гісторыкі. Класічная акупацыя — гэта калі армія адной дзяржавы займае частку тэрыторыі другой дзяржавы, але не прысвойвае пражываючаму на занятай тэрыторыі насельніцтву свайго грамадзянства. У даным выпадку было пра-

[працяг ☞ 10]

**— Едзь, кажа камендант, у мундзіры, толькі прэзентуйся адпаведна. І паехаў я ў Савецкі Саюз, брата ратаваць, — расказвае Барыс Карповіч, сёння адстаўны маёр.**

# Барыс і Алёша




*Барыс Карповіч (другі справа) з Алёшавай нявесткай сярод меляшкоўцаў.*

Я астаўся сіратою ў 6 гадоў. Алёша быў старэйшы ад мяне на чатыры, быў у нас яшчэ і Янка. Бацька пачаў быў рабіць у тартаку, і было нам крыху лепш. Але няшчасце сталася, бацька ўмёр у 1931 годзе. Зямлі ў нас не было, хатка маленькая. Бяда страшная. Я пачаў першы клас. У другі не пайшоў, бо маці аддала мяне ў пастушкі. І я да 1939 года быў пастушком. Вучыўся восенню і зімою, а ў іншы час — у чужых людзях. Пасвіў і ў Меляшках, Гарадку, Белявічах, Пілатоўшчыне, Вераб'ях. Іначай мы зажылі, калі да нас прыйшла савецкая *ўласьць*. Брат і маці пайшлі працаваць, мне можна ўжо было вучыцца. Мая будучая жонка Надзя была ў шостым класе, я ў пятым. Перайшоў я ў шосты клас, як вайна зноў пачалася.

У 1942 годзе пачалося ў нас капанне торфу і ўсю моладзь немцы загналі да работы. Маладзенькіх не бралі ў Нямеччыну, а такія як Алёша і старэйшыя паехалі. Іван трапіў у Нямеччыну, пасля ў армію, і загінуў на фронце. Алёшу забралі ў 1943 годзе. Калі саветы ішлі, ён са сваім баўэрам, у якога быў стэльмахам, Вішнеўскім, з якім зжыўся як з чалавекам, ехаў на захад. Ніякі Алёша не палітык, проста, несвядомы чалавек, які трапіў у колы гісторыі.

Палічылі Алёшу за палітычнага, папасядзеў ён у лагерах у Расіі. Але яго асвабадзілі. Працаваў у Шатуры над Масквой, у электрастанцыі, будаваў рабочыя пасёлкі. Вельмі хварэў. Дайшоў да таго, што доктар яго асвабадзіў. Не далі яму ніякіх дакументаў: „Иди, Алёша, куда хочешь". І ён падаўся на граніцу, думаў, можа пяройдзе ў Польшчу. Мы атрымоўвалі весткі ад яго, што жыве, мелі надзею што вернецца. Не змог. Астаўся жыць у Беларусі. Таленавіты быў, майстраваты, сталярку ведаў, то жылося яму якасьці. Ажаніўся, нарадзілася яму двое дзяцей, жылі ў калгасе пад Зэльвай, у балоцістым месцы, з Насціным малым братам Генікам. Умовы мелі там кепскія, хатка дрэнная, за працадні амаль нічога не плацілі ў калгасе. Цяжка яму там было, ды і сумаваў, і маці тут засталася. Наведаў яго я там у 1956 годзе.

Дагаварыліся мы былі, што я яму вышлю ўсе дакументы, метрыкі, запрашэнні, прашэнні да ўлад. Кажу: Алёша, трэба зрабіць тое і тое, падай прашэнне ў ваш пашпартны стол, каб цябе пусцілі ў Польшчу. Аргументуй: там у цябе хворая маці, дом свой. У нас бракуе спецыялістаў, працу будзеш мець.

Амаль паўгода яму не давалі ніякай весткі, потым прыслалі: „Отклонено". Але, на шчасце, выпаў у нас PAŹDZIERNIK, пачалі ў нас папраўляць błędy. Зараз пасля вайны, калі пачалася будаваць у нас народная дэмакратыя, рушыла вясковая молазь у гарады, на *адзысканыя землі*. Я кончыў быў курсы для трактарыстаў у Беластоку, на Сасновай. Але прыйшла вясна, захварэў на лёгкія. Не ўзялі мяне на трактар. 8 кастрычніка 1945 г. пайшоў працаваць у службу бяспекі. Рабіў там да 1973 года, ад вартаўніка аж па кіраўнічыя пасады, паканчаў там школы, выйшаў на пенсію як маёр міліцыі. У той час, калі хацеў Алёшу ў Польшчу забраць, быў паручнікам. Падумаў, напішу ў справе брата пісьмо ў пасольства Польшчы ў Маскву. Там рэпатрыяцыяй займаецца пан Табарыцкі. Доўга не было адказу. Я папрасіў свайго начальніка, каб пусціў мяне паехаць самому. Кажа: можаш ехаць нават у мундзіры, толькі глядзі, каб акуратна выглядаў, адпаведна прэзентаваўся, усе дакументы аформім. Наш палкоўнік быў такі ветлівы, спрыяючы чалавек.

Я заехаў да Алёшы ў Дарэчаны. Завёз яму шмат чаго, ведаючы яго гаротнае становішча. Кажу: нічога не ўспамінай нікому, што наша мама ўжо памерла (у лістападзе 1956 г.), каб не збілі той аргумент, што да маці едзеш. І рашыў: паеду ў Маскву, асабіста дабівацца, як там ні будзе.

Табарыцкі здзівіўся, убачыўшы мяне, пахваліў за той ліст, але, кажа, мы тут не зможам самі вашага брата вярнуць у Польшчу. Мусіце пайсці да палкоўніка Антонава, ён у галоўным упраўленні міліцыі вядзе рэпатрыяцыйныя справы. Можа, у яго чагосьці даб'ецеся. „Вы к кому?" — патаюцца ў мяне там. Я, кажу, грамадзянін Польшчы, да таго і таго, ад імя брата, які апынуўся ў СССР супраць сваё волі, у Польшчы ў яго дом, хворая маці, і мае мой брат жаданне прыехаць на радзіму". Да Антонава мяне не пусцілі, прыняў мяне капітан. І адразу на мяне „z gębą": „Какое у вас право требовать такое? Он же гражданин советский! У него здесь семья, дом, колхоз! Ну, как ему в Польшу ехать?!" І давай мяне палітычна ўсведамляць! Я так слухаў, слухаў, аж мяне прарвала. Ці гэта ганьба якая, што чалавек хоча быць там, дзе яго места? Ці ж ёсць розніца якая паміж Польшчай і Савецкім Саюзам, і ў нас жа ідзе будаўніцтва сацыялізму? Чалавеку важна, дзе жыць, працаваць. Ці не абавязак сына быць пры маці? Ён жа тут адчувае сябе ненармальна, ён тут пад прымусам. Чаму нельга пераехаць у братнюю Польшчу?! — я тут ужо не то што слухаю пакорліва яго красамоўныя палітычныя тырады, а ўжо атакую! „Ну, поручик, извините, я ещё пойду посоветуюсь с полковником Антоновым, — спакарнеў капітан. — Вы, конечно, во многом правы". Прыйшоў Антонаў, зусім іншы чалавек, прасіў даравання за той нападак капітана. Кажа, гэтую справу разгледзім яшчэ раз. Але, кажа, мы даем свабодную руку вырашэння рэпатрыяцыйных спраў саюзным рэспублікам. Значыць, трэба мне ехаць у Мінск.

Паехаў я ў Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі. Прымаў мяне там не адзін чалавек. А адзін маёр кажа: „Как Москва скажет, мы так и делаем". Калі яны мне абяцалі, што брата рэпатрыруюць на радзіму, значыць, у Мінску аформяць дакументы, і ніякіх засцярог не будзе. Але яшчэ трэба ехаць у Гродна... Абышлі мы з Алёшам усе ўстановы і там. Пасля яму прыслалі інфармацыю, каб нанава падаў прашэнне аб паўторным хадайніцтве аб рэпатрыяцыі.

Прайшло лета, а на познюю восень 1957 г. Алёша з сям'ёй цераз Бялу-Падляску прыехаў у Беласток. Пажыў крыху ў мяне ў Беластоку. Само растопы пачаліся, як на машыне, пазычанай з камендатуры, даехалі мы на Станцыю Валілы. Далей — грузавік не паедзе. На дзвюх фурах перавезлі Алёшаў дабытак у Меляшкі, нашу родную вёску. Стаў Алёша прывыкаць, адрабляцца. Каб набыць зямлю, мусіў пазбавіць сябе беларускага грамадзянства. Але Насця аж да смерці і дзеці іхнія пашпартоў не вярнулі — такія беларускія патрыёты. Цудоўная кабета была Насця, добрая, старанлівая, адказная, ветлівая. Змагла яе бялачка-лейкемія. Маглі б яе ратаваць, перашчапляючы шпік ад кроўнай асобы, але не змаглі такое знайсці.

Жыве цяпер Алёша адзін у сваёй прасторнай хаце. А я аж да зімы са сваёй Надзеяй таксама ў вёсцы. Абое на пенсіі, домік цешчын аднавілі, крыху гаспадарым. Дзяцей трое ў нас, ува ўсіх вышэйшая адукацыя, часта нас тут наведваюць. Вельмі люблю сваю вёску, дзе нарадзіўся амаль 74 гады таму, адкуль выйшаў у свет. І вершы пішу, раздумваю. Адзін вам прадстаўляю, а ты, жонка, з маёй пісаніны не смейся:

Малююць, рысуюць (атрысты,
вядома),
Вакол іх высокая раць,
Але якась неахвотна глядзяць
Туды, скуль іх бацька і родная маць.

**Запісала Міра Лукша**

*Фота аўтара*

# А было гэта...

[9 ☞ *працяг*]

ведзена галасаванне і насельніцтва Заходняй Беларусі і Украіны прагаласавала аб далучэнні да СССР. А што яно так галасавала, да таго давялі санацыйныя ўлады палітыкай дыскрымінацыі непалякаў і некатолікаў. Вярхоўны Савет СССР 2.10.1939 г. прыняў Заходнюю Беларусь, а 30.10.1939 г. — Заходнюю Украіну ў састаў СССР і такім чынам заходнія беларусы і заходнія ўкраінцы сталі савецкімі грамадзянамі. Як усіх грамадзян, маладых хлапцоў сталі прызываць на службу ў Чырвоную Армію, дзе яны даслужыліся часта званняў сяржантаў, больш адукаваныя — нават афіцэраў, а многія палажылі галовы на палях бітваў другой сусветнай вайны. Беларуская моладзь, а нават дарослыя хлопцы і дзяўчаты хлынулі ў школы, каб вучыцца, чаго не мелі магчымасці рабіць пры санацыі. Навучанне ў школах стаяла на вельмі высокім узроўні, асабліва — сціслыя навукі. У 5-м класе пачыналі вывучаць нямецкую мову, у 6-м — альгебру, у 7-м — хімію і астраномію. У вёсках былі беларускія школы, у якіх усе прадметы вывучаліся на беларускай мове, а кожны дзень быў урок рускай літаратуры і мовы як прадмет і як мовы ўсесаюзнага значэння. У гарадах былі і рускія школы, у якіх усе прадметы вывучаліся на рускай мове, але кожны дзень быў урок беларускай літаратуры і мовы, як мовы рэспубліканскага значэння. Сталі выдаваць рэспубліканскія газеты на беларускай мове, на досыць высокім узроўні, пішучы, чым, напрыклад, „Советская Белоруссия", бо змяшчалі яны больш інфармацый з заграніцы і са сваёй вобласці. Гэтыя газеты ўсе выпісвалі таму, што былі яны вельмі таннымі і прыносілі многа навін. Выпісаць „Правду" ці „Известия" было амаль немагчыма таму, што тыражы гэтых газет былі недастатковымі. Усюды была работа. Палякаў таксама выбіралі ў саветы, а чыгунка ў каля 98% абслугоўвалася польскімі чыгуначнікамі.

Але гэтыя шырокія правы грамадзян маглі быць у любы момант парушаны рэпрэсіўнымі органамі, для якіх не існавала ніякая законнасць. Любы грамадзянін мог быць разам з сям'ёю арыштаваны і без ніякага суда, па агідным даносе, без ніякага следства, вывезены „на белыя мядзведзі" ці туды, „куды Сідар коз не ганяў". Арыштоўваліся санацыйныя чыноўнікі, купцы, кулакі, каланісты. Так, як беларусы пры санацыі да ўлады не дапускаліся і багатымі не былі, то рэпрэсіі большай часткай накіроўваліся на палякаў і польскіх каланістаў, якіх санацыя пасяляла на беларускіх і царкоўных землях. Начальнікі НКВД інтэрв'ю для прэсы не давалі, але неафіцыйна што-небудзь маглі журналісту сказаць, што мела часам водгалас у газеце. Аб польскіх каланістах пісалася наступнае: „Яны не падумалі аб тым, што можна было падзяліць маёнткі польскіх памешчыкаў у Цэнтральнай Польшчы. Не, ім пахла беларуская і ўкраінская зямля. Вось мы завязем іх туды, дзе ёсць многа пустой зямлі" (гэта значыць — у Сібір!).

У гады халоднай вайны была прыдумана тэорыя аб тым, што „Чырвоная Армія 17 верасня 1939 г. усадзіла нож у спіну Польшчы!" Каб неяк аднесціся да гэтага пытання, спашлюся на іншыя аўтарытэты. У 1938 г. у Польшчы была выдадзена кніга „Współcześni" пра тагачасных палітыкаў, між іншым пра Ю. Пілсудскага, Ж. Клемансо, М. Гандзі, Д. Лойд-Джорджа, І. Сталіна. Апошні раздзел кнігі прысвечаны быў А. Гітлеру, які лічыў, што ў 1918 годзе Нямеччына „rewolucja wbiła nóż w plecy!" Аўтары кнігі ў сваю чаргу даказвалі, што Нямеччыне пад канец I сусветнай вайны была настолькі вычарпанай, што „rewolucja wbiła armii nóż w plecy, to był to już nóż w plecy trupa!"

Становішча Польшчы 17 верасня 1939 г. было надта складанае: уся тэрыторыя занята немцамі, не існаваў ужо ніякі сарганізаваны фронт, а камандаванне страціла панаванне над сітуацыяй, абараняліся толькі акружаныя Варшава, Модлін і Гэль; заходнія саюзнікі не варухнулі пальцам, каб памагчы Польшчы. Чырвонай Арміі ў верасні 1939 г. усаджваць Польшчы нож у спіну не было патрэбы.

**Мікалай Капчук**

# Клопаты з аптэкай

**Жыхары Орлі ўжо другі месяць за лякарствамі ездзяць у Бельск-Падляшскі.**

Яшчэ ў ліпені г.г. працягваўся рамонт арлянскай аптэкі. Драўляны ганак быў заменены мураваным, зроблены былі новыя сходы і пад'езд для дзіцячых калясак. Арляне цешыліся, што іхняя аптэка будзе працаваць у лепшых умовах. Неўзабаве, аднак, склалася такое становішча, як шэсць гадоў таму.

У снежні 1992 года Цэфарм без папярэдняй кансультацыі з гміннымі ўладамі зачыніў аптэку ў Орлі, тлумачачы сваё рашэнне яе нерэнтабельнасцю. Самаўрадавыя ўлады зрабілі павярхоўны рамонт і сталі шукаць фармацэўта для вядзення аптэкі. Пасля года пошукі завяршыліся поспехам. Прыватную аптэку ў Орлі адкрыў Ежы Евец з Бельска-Падляшскага.

У сярэдзіне лета на арлянскай аптэцы зноў павіс замок, а яе ўладальнік падаў у газеты аб'яву аб продажы будынка з пляцам. Жыхары Орлі, сярод якіх перавагу складаюць пенсіянеры, гэтую вестку ўспрынялі з трывогай ды абвінавацілі гмінныя ўлады ў халатнасці. А пацыенты мясцовай амбулаторыі вымушаны цяпер ездзіць за лякарствамі ў Бельск-Падляшскі.

— Цяпер ніхто нікому не можа загадаць адчыніць аптэку ў тым ці іншым месцы, — гаворыць інспектар Барбара Бароўская з Ваяводскага фармацэўтычнага нагляду. — Уладальнік арлянскай аптэкі звярнуўся да нас з просьбай адмяніць канцэсію. Калі аптэка нерэнтабельная, нельга спадзявацца, што нехта будзе яе весці на грамадскіх пачатках. У такой сітуацыі гмінным уладам трэба шукаць іншага фармацэўта, заахвочваць яго добрымі ўмовамі, кватэрай ці льготамі ў арэнднай плаце. Цяпер аптэкары больш ахвотна адкрываюць аптэкі ў цэнтры Беластока чым на правінцыі.

Хаця мінае ўжо другі месяц з часу закрыцця аптэкі ў Орлі, гмінныя ўлады не праяўляюць большага зацікаўлення справай. Войт пра ўсё даведаўся толькі ў пачатку верасня і паабяцаў паразмаўляць „з гэтым панам", значыць, з аптэкарам.

**Міхал Мінцэвіч**




*Арлянская аптэка.*

# Дакучлівыя ваўкі



8 верасня на ветэрынарны пункт у Орлі з'явіўся солтыс вёскі Вулька-Выганоўская Аляксандр Міхалевіч і паведаміў, што на яго полі мінулай ночы ваўкі загрызлі сямімесячнае цяля, а чацвёра штук маладняку пакусалі ў правае сцягно. Адсюль селяніна адправілі ў Гмінную управу, але і там не ведалі як яму дапамагчы. Толькі пасля тэлефанічнай кансультацыі з гмінай у Дубічах-Царкоўных, дзе такіх выпадкаў было больш, чыноўнікі прыдумалі спосаб вырашэння гэтай справы. На месца здарэння паехалі лекар ветэрынарыі, двое радных і ляснік. Прадстаўнічая камісія саставіла пратакол аб нанесенай селяніну шкодзе, былі зроблены здымкі. Гэта будзе селяніну падставай патрабаваць выплату кампенсацыі.

— Трэба было неадкладна зрабіць парадак, каб прадухіліць распаўсюджванне магчымых хвароб, — кажа ветурач Юзэф Бжана. — Месяц раней у гэтай вёсцы былі зафіксаваны выпадкі шаленства. Загрызенае цяля закапалі мы на глыбіню аднаго метра. Сёлета гэта першы такі выпадак у Арлянскай гміне. У мінулым годзе падобнае здарылася ў Рыгораўцах. Многа ўрону нанеслі ваўкі сялянам Дубіцкай гміны — жыхарам Тафілаўцаў, Дубіч-Царкоўных і Елянкі. Праўдападобна шкоду ўчыняюць ваўкі, якія прыходзяць сюды з тэрыторыі паляўнічага гуртка „Цецярук" з Кляшчэль.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Беспарадкі ў ЗУСе

У снежні мінулага года я падаў заяву ў Чаромхаўскую амбулаторыю, што хачу належаць да Касы хворых мундзірных службаў (таго патрабавалі лекары). Такую ж заяву паслаў і ў Беластоцкае аддзяленне ЗУС. Пасля гэтага я лічыў, што ўсё я афарміў як след. Аднак памыляўся.

Калі ў мясцовай амбулаторыі патрабавалі ад мяне чэк апошняй пенсіі, дык выявілася, што мая аздараўляльная складчына трапляе ў неадпаведнае месца, г.зн. у Падляшскую касу хворых н-р 10, а не ў Касу хворых н-р 17 мундзірных службаў. Мне выдалі ў амбулаторыі адпаведнае пасведчанне і папрасілі пасláць яе ў Беластоцкі ЗУС, каб там выправілі памылку.

Якое ж было маё здзіўленне, калі ў пісьме ЗУС ад 1 ліпеня г.г. я прачытаў, што аздараўляльная складчына „адводзіцца згодна з маім пажаданнем у Падляшскую касу хворых". Адмяніць гэтае можна толькі з пачаткам наступнага года.

Я — былы чыгуначнік і лячуся ў амбулаторыі мундзірных службаў, а мае грошы трапляюць ва установу, з якой я не звязаны. Ці ж гэта не абсурд?

Не меншым парадоксам з'яўляецца тое, што ЗУС не хоча выправіць памылку, засланяючыся літарай закона. А я пытаю, які закон прадбачвае браць неналежныя для Падляшскай касы хворых грошы?

**Уладзімір Сідарук**

# ВЕР – НЕ ВЕР

Астроне! Прысніўся мне дзіўны сон. Перада мной у адлегласці пару метраў жанчына. Постаці яе не бачу, толькі галаву, валасы карычневыя, кароткая стрыжка. Бачу тую галаву як бы ў імгле, больш нічога не відаць.

У тую ноч сніцца і другі сон. Мы з мужам у нейкім доме — жылы ці казённы дом, гэтага не ведаю. І так, як у першым сне — пару метраў перада мной мой муж і нейкая жанчына, заляцаюцца адно да другога. Пасля яны пачынаюць танцаваць. Скончылі і яна звяртаецца да яго са словамі: „Ну, што, прыемна было?.."

Дарагі Астроне, дай адказ на гэты сон як мага хутчэй. Якраз неўзабаве мае вырашыцца справа, якая нас непакоіць.

**Анна**

Анна! Я мяркую, што ў тваім жыцці адбываюцца нейкія сваркі з-за маёмасці (мо цябе чакае нейкая спадчына, а іншыя пасягаюць на яе?). Тая галава, якая запаланіла твой першы сон, нічога асаблівага магла б не абазначаць, калі б не тыя выразныя валасы з прычоскай. Відаць, што справа датычыць нечага, вакол чаго варта было б пахадзіць, бо пахне тут грашыма ці проста нейкай маёмасцю.

Баюся аднак, што з гэтых вашых старанняў нічога не выйдзе. Бачыш, непакоіць мяне твой другі сон, які прысніўся табе амаль аднaчасова з першым. Тыя заляцанкі твайго мужа і нейкай бабы сведчаць аб няшчырасці, якая вісіць ў паветры. Але найгоршае дык тое, што былі танцы і твой муж браў у іх удзел. Сведчыць гэта аб тым, што ўсе вашы клопаты, старанні будуць дарэмныя.

**Астрон**

# Рашаюцца праблемы

У палове верасня г.г. закончылася чарговая дарожная інвестыцыя ў Чаромсе — грамадства атрымала 1,5-кіламетровы тратуар, які спалучае вёску Чаромху з пасёлкам Чаромха. Інвестыцыя вялася на працягу трох гадоў і каштавала 100 тысяч зл.

Выканаўцам работы сталі тры фірмы — дзве з Сямятыч і адна з Бельска-Падляшскага. Усе фірмы салідна і тэрмінова выконвалі сваю працу. Найбольш складаны этап — пабудову пад'ездаў для кожнай сядзібы, выконвала фірма „Timex" з Сямятыч. Зроблена было таксама адвадненне вёскі Баброўка і паляпшэнне вуліцы гравіем. На гэту мэту з гміннага бюджэту было адведзена каля 50 тыс. злотых.

Рашылася таксама праблема палявой дарогі і пабудовы мастка ў вёсцы Чаромха, як і перабудова вулічнага асвятлення ў гміне на энергаашчаднае. Адбыліся аўкцыёны ў гэтай справе. Кошт першай інвестыцыі разлічваецца на суму 40 тыс. злотых. З перабудовай вулічнага асвятлення войт пакуль што ўстрымоўваецца, паколькі ў аўкцыёне ўдзельнічалі дзве фірмы (варшаўская і беластоцкая) і гміна не рашыла, якую выбраць. Разумеецца, што пераможа той, хто запануе таннейшыя паслугі.

**Уладзімір Сідарук**


**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




**Галерэя „Ніўкі"**

## *«Еўрасаюз, як ты мне мілы...»*

Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

## *Па-пернікі*

Наймацнейшы ў свеце ёсць бухгалтар добры,
Што так грошы злічыць, каб не пайсці з торбай.
А калі ён ураднік, то вылгацца можа,
Што кабза пустая, што не дай ужо Божа.
Бо „паляк народаў павай з папугаем",
Выверне кішэні па ўсім: Во што маем!
Перад светам шабляю махае і пнецца наперад,
А сам голы-босы лезе бядзе ў нерат.
І ўсіх на дно цягне. **Вы** — ешчэ паперу!
На паперы *ўсё ў пажондку*. І мы ў гэта верым.
А ўжэндік па-амерыканску, на стале з нагамі,
На экране спраўна іграе ўяўнымі грашамі.
Іх там многа, кампетэнтных не менш чым Валэнса.
Жондзяць, дзеляць і балююць; а іншым — ні kęsa!

**Вандал АРЛЯНСКІ**

# *Крыжаванка*



**Гарызантальна:** 3. адчуванне ўласцівасці ежы, 8. ласо, 9. крыўда, прыніжэнне, 10. жывёла сямейства *Elephantidae*, 11. напр. гімназія, 13. упрыгожанне, 15. з'едлівасць, каварства, 16. рашучая атака, 20. горы на мяжы Славакіі і Чэхіі, 22. не тэорыя, 23. сярэдневяковы цэнтр Палесся, 27. пачатак раніцы, 29. памер кнігі, 30. асноўны састаў работнікаў прадпрыемства, 31. рака між Расеяй і Кітаем, 32. грыб са слізістай шапкай, 33. свіран, 34. прыстасаванне для распальвання агню.

**Вертыкальна:** 1. плітка са спрасаванага матэрыялу, 2. жулік, ашуканец, 4. беларуская літаратурная суполка заснаваная ў 1923 годзе, 5. тоўстая вяроўка, 6. рад невялікіх гор, 7. птушыны рот, 12. Анна, расейская паэтэса (1889—1966), 14. слова, якім называюць таго, да каго звяртаюцца, 16. вымаўленне гукаў без удзелу галасавых звязак, 17. горы, якія аддзяляюць Азію ад Еўропы, 18. віно з яблычнага соку, 19. калега Мінска, 21. бяздомны чалавек без прыстанішча, 24. рака ў Пэру, правы прыток Амазонкі, 25. вупраж на конскую галаву, 26. аскетычны член царкоўнай абшчыны, 27. сок хваёвых раслін, 28. выспа Адысея.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 33 нумара**

**Гарызантальна:** Траян, пракатчык, праца, сусед, бар, падліза, андарак, ніз, Алдан, скаба, астранаўт, онікс.

**Вертыкальна:** макаўка, трама, начос, пракладка, касманаўт, пража, джала, бан, раз, інвалід, нутро, Сфакс.

Рашэнне: **Ала Дубец**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Вользе Дземяновіч** з Варшавы і **Славаміру Кулiку** з Гайнаўкі.

# Пра эрганомію

Не так даўно на гэтым месцы было напісана, што галоўнай прычынай бамбардзіровак Бялграда, нягледзячы на пафасныя заявы пра правы чалавека, было прыкрыццё Клінтанавага распорка. Бо ж паглядзіце самі: вайна тая прыгасла і тлее далей ды тлець будзе, бо міратворцы спахапіліся, што не ў змозе яны навесці мір. Ну а Клінтанавы кліны, быццам тая пачвара з Лох-Нес, зноў пачынаюць паднімацца на перадавыя месцы навін, з якіх былі на кароткі час выцеснены і нават турнэ славутай ягонай стажоркі па Еўропе амаль не заўважалася. А нядаўна яна вярнула належнае ёй у мас-медыях месца: паляцела яна самаходам у адхон, бо ехала трымаючы ў зубах цыгару быццам сам Уінстан Чэрчыль. Не мае яна, відаць, вопыту ў абыходжанні з габарытным смакоццем, нягледзячы на практыку ў Белым Доме. А сама ж зноў Клінтаніха, якая паводле слухаў мае меркавацца на нейкі губернатарскі пост, выказалася наконт свайго мужа, што ягоныя пазасямейныя вылазкі з'яўляюцца вынікам яго цяжкога дзяцінства, якое працякала ў акампанеменце грызні паміж бабуляй і матуляй, хаця слаўная стажорка не Клінтаніху грызла — калі так можна назваць ейную славутую дзейнасць. Вывад з гэтага такі, што Білу патрэбны дзве жанчыны, а не адна. Паколькі амерыканскія прэцэдэнты становяцца ў нас нормай, рыхтуймася і мы да законнай бігаміі. А мець дзве жонкі вельмі цікава: вось нядаўна маёру кангалезскай арміі Кінсафу Кінпі адна жонка прывяла трайню, а пару гадзін пасля таго другая жонка таксама нарадзіла трайню. Дарэчы, ваякі, не толькі афрыканскія, у гэтых справах найбольш спрактыкаваныя, бо калісьці ў Гданьску жонка аднаго бравага ваякі нарадзіла аж пяцерню.

Дзесяць гадоў таму адзін тады пазнейшы наш прэзідэнт абяцаў нам, што перасядземся з веласіпедаў на самаходы. І так сталася: цалкам нядрэнна мы сабе цяпер самаходзім. Новы від транспарту стварае і новыя жыццёвыя сітуацыі. Вось, напрыклад, вярнуўшыся з пляжаў Коста-дэль-Соль ці нейкага іншага Монтэ-Карла, мы на сваім „Ферары" едзем паглядзець экзатычную ўжо нам усходнюю нашу сцяну. А тут на Васількоўскай, Баранавіцкай ці Сухавольцавай вуліцы стаяць прыгажуні, апранутыя, як нам на першы погляд магло б здацца, эканамічна, а па сутнейшай сутнасці — эрганамічна і прыміляюцца каб заняць месца побач нас; могуць сярод іх быць і больш або менш вопытная стажоркі. Мы з ахвотаю дадаем шыку нашаму „Ферары" ці „Запарожцу", падбіраем спадарожніцу і едзем! Калі пасажырка вопытная, яна дапаможа нам загнаць нашу машыну ў самы адмысловы гараж. А калі яна толькі нявопытная стажорка, тады і мы можам апынуцца ў адхоне і ў сённяшняй юрыдычнай абстаноўцы можа нас тады чакаць у найлепшым выпадку сямейны імпічмент, а ў найгоршым — інвалідская каляска. Але не турбуйцеся гэтым: бравы ваяка Швейк нават з інвалідскай каляскі не ўпаў духам, толькі радасна заклікаў:

— На Бялград! На Бялград!

**Адам МАНЬЯК**

НА ЮГ ЛЕТИМ ДРУГОЙ ДОРОГОЙ! ЗДЕСЬ ИСЧЕЗАЮТ НЕ ТОЛЬКО ВОЗДУШНЫЕ ШАРЫ ...

БЕЛАМУДСКИЙ ЛУКАГОЛЬНИК

МИНСК

Мал. Алеся СУРАВА

# *„Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка*

— Як дайшло да твайго нешчаслівага выпадку?

— Зусім звычайна: жонка загадала павярнуць налева, а цешча — направа. А я люблю згоду ў сям'і і паехаў прама.

* * *

— Што хочаш, дзедка, атрымаць на юбілей пяцідзесяцігоддзя шлюбу з бабулькаю? — пытае ўнучак.

— Развод.

* * *

Пажылы пацыент скардзіцца лекару:

— Пан доктар, пасля першага і другога яшчэ нічога не адчуваю, пасля чацвёртага паяўляецца задышка, але пасля пятага дык ужо зусім не магу і мушу крыху аддыхацца.

— А колькі вам гадоў?

— Семдзесят.

— У вашым узросце гэта і так небывалае!

— Толькі я жыву на восьмым паверсе, а ліфт не дзейнічае.

* * *

У краму ўваходзіць Коля і бачыць на паліцы акуляры за тысячу злотаў.

— Што гэта за акуляры, што так дорага каштуюць? — пытае прадаўшчыцу.

— Праз гэтыя акуляры ўсіх відаць голымі.

— Немагчыма! Хачу іх праверыць.

Прадаўшчыца падае яму акуляры, ён надзявае іх і бачыць прадаўшчыцу голаю. Знімае — прадаўшчыца зноў у вопратцы, надзявае — зноў голая...

— Ну, або купляйце, або знімайце, — паскарае яна.

— Ужо плачу і забіраю.

Уваходзіць Коля ў новых акулярах у кватэру, глядзіць — жонка голая, сусед голы. Знімае акуляры — жонка голая, сусед голы.

— Ну не! Не паспеў дайсці дадому, а яны ўжо папсаваліся.

* * *

— Зрабіў я завяшчанне ды запісаў усю маёмасць жонцы, з тою ўмовай, што зараз пасля маёй смерці неадкладна выйдзе замуж.

— А навошта ж ты так зрабіў?

— Каб быў на свеце прынамсі адзін чалавек, які б шкадаваў маёй смерці.